

ЯШЧЭ АДЗІН КРОК



ДА СПОВЕДЗІ...




З любоўю да ўлоння

№4 (13)
Жнівень 1998

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Беларуская прыродалюбная асветна-публіцыстычная газета

Двухмесячнік


## Знікненне лета... Сымбаль вечны!





Голас Пушчы



Фота: Уладзімір Дацкевіч (Белавежская пушча)

Зварот пары, знікненне лета...
То — водгулле душы паэта,
То — смутны вобраз развітання,
То — струн дрыгучых заміранне,
Натхнёнай песні жаль сардэчны,
Жыцця і смерці — сымбаль вечны!
І люб і смуцен час прыгоды,
Калі душа ўсяе прыроды
З тваёю злучыцца душою
Ў адным суладдзі і настроі!

Якуб Колас


Газета выдаецца на ініцыятыве інфармацыйнага зялёнага агенцтва "Неруш-прэс",
надпісны індэкс 63267
Заснавальнік і рэдактар
Валерый Дранчук



Для кантактаў:
220088 Мінск, вул. Іванаўская, 38, 16
Тэл. (017) 236-50-76, факс 220-23-53

The founder and Editor-in-chief
Valery Dranchuk
Contact: Ivanauskaya St. 38-16
220088 Minsk Belarus
fax (375 172) 20-23-53


ПРАЧЫТАЎ — ПЕРАДАЙ ДРУГОМУ «Б-П»

Слова рэдактара

## Праўдзівая спадчына

Беларусы, як і ўсе падобныя ім на Зямлі, заўжды скарыстоўваліся з прыродных кладовак. Але я не ведаю масавых прыкладаў, каб матэрыяльныя нястачы рабілі іх калі-небудзь прагнымі. Хіба што пошасць, вайна. Ёсць іншыя прыклады, калі маляўнічы лужок побач з вёскай не скошваўся ці не ўсё лета, бо вельмі пасаваў чалавечым густам, шанаваўся для акрасы душы.

Часта на агародзе, там, дзе капуста і бульба, у беларусаў будзе расці дуб ці таполя. Рука не падымецца спілаваць. Прырода карэніцца ў душах людзей, лучыць пакаленні, абагаўляецца, жыве ў шматлікіх паданнях і песнях. *"Я высплюся ў бярозачкі на карэннях, як у роднай матулечкі на каленях".* Часам не ўхопіш імгнення, калі канчаецца прыгожая легенда і пачынаецца жывы, амаль Шэрвудскі лес. Або неруш адвечнага імшонага балота ці рачная затока ў калыханні нябёсаў і белых лілей. Ды яшчэ русалкавая азёрная роўнядзь у атачэнні дуплястых векавых дрэў.

І вось што я назіраю апошнім часам.

Сёння, калі самаўхваленне ўладаў набыло ў Беларусі амаль пошасны характар, пачало заносіць і многіх прыродаахоўнікаў пры пасадах. Яны красамоўна распавядаюць пра спустошаную Еўропу, сярод якой Беларусь падаецца ім самай каітнеючай і некранутай. Забыўшыся на ўходанне тысячаў рэчак, на свінакомплексы на берагах маляўнічых азёр, звяваныя балоты і абшары чарнобыльскай зоны, яны становяцца проста лірыкамі з васількавымі вачыма ды анёльскімі крылцамі. Маўляў, гэта мы такія прыродаашчадныя і ледзь не самыя гуманныя ў свеце. Гэта мы ўсё захавалі ў адрозненне ад розных Еўропаў, дзе не жадаюць нас бачыць. Пытанне, адным словам, выключна палітычнае. А словы моцна фальшывяць.

Чытач шмат у чым пераканаецца і сам, калі прачытае гэты нумар. Гаворка, тым часам, ідзе пра дужа цікавую і сур'ёзную рэч, якую я назваў бы прыўлашчваннем Нацыянальнай Спадчыны тымі, хто яе заўжды папіхаў ці даваў выспятка, крыўдзіў і над ёю знасіўся.

А лірыкам, увогуле, хочацца быць. Дык і будзем! Але без маны і ашукі.



Валерый Дранчук

# Калі апаў першы ліст на зямлю

***Анталогія** ў перакладзе з грэцкае мовы значыць букет кветак. Старажытныя грэкі так называлі зборнікі выбраных твораў паэзіі*



***Наталля Арсеннева***

*Восень*

Як не любіць мне восень залатую,
Калі праз вопратку асін густую
Тон прабіваецца чырвоны —слаўны тон
І ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?
Як не любіць мне восень залатую,
Калі на ніву зжатую, пустую
Кладзецца уначы, як малако, туман
І павучыння шмат на хмызняку палян.
Як не любіць мне восень залатую,
Як не любіць мне частку года тую,
Калі я веру ўсім, калі душа гарыць
І хочацца так век, хоць сумаваць, а жыць...
*1922*

***Акума Катаміцы***
*(Японія)*
*1798-1868*

*Пасля збору ўраджаю*

З палёў навакольных,
колькі сягае вока,
звезлі ўраджай –
толькі застаўся стаяць
самотны будан мой з саломы.

*Павуціна*

Ад хвоі да хвоі
вісяць ледзь прыкметныя ніці –
на захадзе сонца
ў святле пераліўным зайграла
бясконцая павуціна...

***Максім Танк***

* * *

Калі апаў першы ліст на зямлю,
Я падумаў: сарваў яго вецер.
Калі апаў другі ліст на маю далонь,
Я падумаў: мо захацеў пагрэцца.
Калі ж апаў трэці ліст на сэрца,
Я зразумеў: набліжаецца восень.

***Леапольд Стаф***
*Польшча*

*Мова*

Навошта спеў салаўя разумець,
Калі ўпіваешся ім.
Навошта жабіны харал разумець,
Калі захапляешся ім.
Я разумею людскую мову,
Словы ў ёй фальшывяць і лгуць.
А калі б не разумеў,
Быў бы вялікім паэтам.

***Леанід Дранько-Майсюк***

* * *

Што ні было – усё ж радзіма,
І што ні ёсць – усё ж свая,
Часцей з сабачымі вачыма,
Чым з вольным горлам салаўя.

Раней няма, бліжэй таксама.
Мой родны кут, мой мілы кут...
І застаецца лепшым храмам
Твой кожны дол, твой кожны груд

***Кастусь Цвірка***

* * *

Дзень добры, асмужка
наймілых аколіц,
Што ўдоўжкі і ўшыркі
мной сходжаны калісь!
Вярну пад Пагон –
у расянае ранне.
Ён спіць яшчэ, лес,
патануўшы ў тумане.
Здалёку пануры, халодны,
а ўвойдзеш –
Па-свойску сустрэнуць,
расступяцца хвоі.
Камлі — што калоны,
вяршыні — шаломы.
Нібы ў найраскошныя
трапіў харомы!
Ні тлуму, ні гаму,
ні масак, ні мумій –
Усё тут наросхліст –
для сэрца, для думак.
Хадзі сабе, вольны, —
па сцежках, без сцежак –
Ды слухай душою
зямлі ўсёй бязмежжа.
У добрым суладдзі
прыроды наўвішнай
Заўсёды мне бачыцца
сэнс найвялікшы.

***Яўген Хвалей***

*Вырай лістоў*

Адлятаюць з клёнаў лісты,
толькі голля ўскалых...
Пасядзім.. Памаўчым...
І душу лепш настроім
на слых.

Хай пачуе яна цішыню –
развітальную музыку лісця.
Гэта будзе з табой...
Гэта з некім было ўжо
калісьці...

***Валерый Дранчук***

*У Нясвіжскім парку*

Быццам хтосьці мяне
аклікае.
Быццам хтосьці мяне
даганяе.
Быццам хтосьці мяне
хапае
за плашч.
Ліст апалы.
Восені плач.

*Катастрофа*

Ішоў цераз поле – дрот аблытаў мне
ногі
Збочыў у змрок – паміж дрэў ляжалі
мёртвыя птушкі
Рушыў уздоўж сцяны – сцяна была
радыеактыўная

***Сяргей Грахоўскі***

*Экалогія душы*

Паміраюць званочкі,
Зязюлі, чабор, журавіны,
І не ў вырай, а некуды так
Адляцяць журавы.
Мы сябе абкрадаем,
А множыць здабыткі павінны
І ўзвышаць абавязкі свае
І правы.

Вынішчаем лясы,
І пачуцці, і светлыя словы,
Што, як матчына песня,
За сэрца бяруць,
Падсякаем бяздумна
Карэнні свае і асновы
І не бачым, што хутка
Лісты адамруць.

Нашы песні і мова знікаюць паціху.
Пачакайце!
Звяртаюся з просьбаю я:
Занясіце хутчэй у Чырвоную кнігу
Верасы і чабор, наша слова і наша імя.

***Віктар Гардзей***

* * *

Бераг, быццам крама ювеліра,
зіхаціць брыльянтамі расы.
Дуб-дваінік наструніўся, як ліра,
І гудуць чмялямі верасы.

Свіцязь ціха з хвалямі гуляе,
Падмывае вербам карані.
І мяне таксама падмывае
Акунуцца ў сіняй глыбіні.

Цёплым днём вада наскрозь прагрэта,
І наскрозь прасвечана яна.
Тут вада, нібы душа паэта,
Чыстая і светлая да дна.

***Алесь Разанаў***

* * *

Пусцее наўколле:
праз кроны дрэў
замігцелі зоркі.

* * *

Канчаецца лета:
лісце
туліцца да галіны,
галіна – да дрэва,
дрэва – да каранёў.

***Генадзь Бураўкін***

У гарадскім нямоўклым гуле
Мяне ўсё клічуць журавы
На тую сцежку дарагую,
Дзе столькі красак і травы.

Яшчэ яе не затапталі,
Яна хаваецца ў палях,
Дзе над ільнамі і жытамі
Плыве бароў смалісты пах,

Дзе возера пад сонцам млее
І, як стамлёны матылёк,
Закалыханая лілея
На рукі просіцца здалёк...

Яна мне звязвае нанова
З душою ўзгоркі і раку –
У вузел памяці сыноўняй
Пра матчын дом і родны кут...

***Адам Глобус***

*Холад*

Палае золкае паветра –
Гараць асеннія кусты,
Чырвона-цёмныя лісты,
Сарваныя пякучым ветрам,

Ляцяць: на чорныя карэнні,
Праз ярка-жоўтую зару,
У парудзелую траву,
на дол, на вострыя каменні...

***Уладзімір Марук***

* * *

Сяльцо пад крыламі буслоў.
Бацькоўскай хаты тварык дробны.
Аднекуль голас прынясло
На аніякі не падобны.

Я пазіраю на палі,
На хаты, на жывое вецце...
А гэта ўсё, што ёсць на свеце,
Гаворыць вуснамі зямлі.



*Фота: Аляксандр Гутоўскі*

SUMMARY

***Poetic and lyric lines mingle with the anxious confession of Belarussian and foreign authors.***

# Час пакланення і ўшанавання

## Узвінутым сымбалям чалавечага ўратавання -- Святым Крыжам -- беларусы маліліся і ў царкве, і ў храме прыроды

*Сёння мы спрабуем ратавацца. Ад хцівасці і чэрствасці, ад раўнадушша і галечы, ад ідэалагізацыі і хімізацыі, ад панавання і рабства. Шмат ад чаго яшчэ. Мы вучымся быць міласэрнымі і багатымі, памяркоўнымі і паважлівымі. Мы вяртаем цэрквы і капліцы, адраджаем занядбаныя каштоўнасці, радуемся, што настаў час вяртання і ўшанавання крыжоў. Гэта вялікая, узвелічальная праца.* ***Свята Узвіжання****, якое паводле каталіцка-праваслаўнага календара адзначаецца* **14** *і* **27** *верасня, бадай, з тых, якія сёння нам вельмі патрэбны.*

Гэта дзень шчырага посту і значная падзея ў гадавым коле: у храме пасля велічання з алтара выносяць крыж, і ўсе вернікі апускаюцца перад ім на калені; адбываецца чын узвіжання крыжа. А ў прыродзе ўсё больш цішыні ды асенняй журлівасці. Пасля развітання з летам чакай халадоў: *"На Ўзвіжанне халат з плеч, кажух на плечы"*.

Пачатак традыцыі вяртае нас да падзеяў, калі вышукваўся святы крыж, на якім быў распяты Сын Божы. Маці візантыйскага імператара Канстанціна ў 326 годзе загадала ўзняць крыж на высокім месцы, каб быў ён здалёку добра відаць. Яе воля была цалкам споўненая. Крыж быў падняты на гары Галгофе, на сваім ранейшым месцы, якраз там, дзе і быў укрыжаваны Ісус.

Галоўны рэлігійны сэнс свята – залучэнне вернікаў на "крыжовы шлях" Хрыста. Шлях паратунку. І шлях цярплівай пакоры. Вернікі, святкуючы, як бы давалі абяцанне слухмяна "несці свой крыж", аддаючыся волі божай...

А на вёсках у гэты дзень, як і некалі, вельмі даўно, ставілі крыжы на так званых крыжавінах – там, дзе сыходзіліся, перасякаліся дзве дарогі. "Узвінуты" чалавекам, крыж як бы адбіваўся, адлюстроўваўся ў крыжы навакольным, прыродным. Але аб'яўноўвала іх не адзіна знешняе падабенства, але глыбокі ўнутраны сэнс.

Крыжавіна сімвалізавала сабой канец свету свайго, чалавечага, абжытага ды асвоенага, і пазначала ўваходзіны ў невядомае, патаемнае, часцей — чужое. У казках герой, апынуўшыся перад скрыжаваннем, думае ды разважае – якою з дарожак пайсці-паехаць, якая з іх павядзе да жаданае мэты. Абраўшы пуцявіну і пераступіўшы крыж, падарожнік трапляе ў свет чужы, ў "царства трыдзесятае". А ў рэальным жыцці вяскоўцы праводзілі да крыжавіны нябожчыка-суседа; ішлі туды разам з госцем, які вяртаўся дадому; там развіталіся з салдатам-навабранцам. Можа, таму і назвалі крыжавіну "растанькамі".

Скрыжаванні як бы ўбіралі ў сябе ўсё тое, што сыходзілася да іх з усіх чатырох бакоў, з усіх нязведаных таемных даляў і нават з "таго" свету. Быццам магнітам, прыцягвала крыжавіна не толькі гасцей чаканых, але і сілы варожыя, злыя. Станавілася гэтае месца полем сустрэчы чалавека з прадстаўнікамі ўсяго нябачнага свету. Ці не таму менавіта на ростаньках адбываліся шматлікія варожбы. На Каляды дзяўчаты вымяталі хату, а шумку неслі на крыжавіну, каб там стаць на яе і дачуцца брэху сабакі ці спеву пеўня, што паказвалі на дом будучага жаніха. На Купалу дзяўчаты рвалі на крыжавіне зубамі трыпутнік, каб пакласці яго потым пад галаву ўначы і чакаць у сне суджанага. Вось і была крыжавіна месцам сустрэчы людзей з духамі продкаў, з духамі прыроды і самой нячыстай сілай. Адметна, што і своеасаблівы "іспыт на чарадзея" адбываўся менавіта на ростаньках, дзе ўступалі ў свае правы законы чалавечага антысвету.



* *крыж-абярэга пры дарозе. Малюнак Ф. Кастрэцкага (рэпрадукцыя). XIX ст.*

Магчыма, хрысціянства памкнулася асвяціць язычніцкае значэнне крыжавіны ўзвіжаннем крыжа, які атрымаў у адпаведнай афарбоўцы найвышэйшае асэнсаванне. Крыж, чалавекам зроблены, уздымалі, спавівалі ручніком, аздаблялі, каб не прапусціў злога, каб нёс увысь толькі добрае, аберагаў і супакойваў.

Крыжы ставілі яшчэ там, дзе перасякаліся спрыяльныя для чалавека энергіі; таму тыя месцы і мелі падставы збіраць шмат людзей, якія прыходзілі на паклон, каб знайсці паратунку, — ішлі да крыжоў беларусы і аднолькава шчыра маліліся ім і ў царкве, і ў храме прыроды.

Сёння агульнапрызнана, што крыж – гэта сімвал Сусветнага Дрэва, якое злучала зямлю і неба і расло пасярэдзіне Свету. А яшчэ крыж — чалавека-сімвал: раскінутыя рукі, ногі цвёрда ўпіраюцца ў дол.

Вёска спраўляла свята Узвіжання адметна і пашанотна. Раненька, як сонца ўзыходзіць, самыя "шчырыя і сумленныя" маглі пабачыць, як яно грае, мігае і "ўздзвігаецца". Гаспадыні ў ёўнях слалі белыя вышываныя ручнікі, а на іх ставілі пачастунак еўніку, каб не гарэзіў ды пераходзіў жыць на сталае месца ў гаспадарку.

Узвіжанне – дзень, што амаль сумяшчаўся з восеньскім раўнадзенствам і зачыняў за сабою лета. Большасць птушак ужо адлятала ў цёплыя краі ці, як верылі нашы продкі, у вырай-рай, а мядзьведзь ладзіў сабе бярлогу. Звіваючыся ў клубкі, сыходзілі ў свае норы змеі. Казалі, што на Узвіжанне раніцай трэба ўпільнаваць той клубок, пазнаць у ім цара змяінага, што на галаве залатую карону мае; перад тым, хто схопіцца за яго залатыя рожкі, адчыняцца ўсе зямныя скарбы... У народзе яшчэ казалі: *"Узвіжанне лета замыкае, а ключык шызая галачка за мора панесла"*.

А ў царквах ды на раздарожжах узнімаліся крыжы... Як сімвалы ўсіх магчымых перакрыжаванняў – жыцця і смерці, мінулага і будучыні, святочнага і будзённага. Крыж паўставаў-узнімаўся, каб паяднаць гэта ўсё, каб сцвердзіць ідэю вечнасці і несмяротнасці.

працяг тэмы: ст. 14

Сусветны Валадару,
Прадвечны Божа,
...пашлі Беларускаму
Народу святых і вялікіх
слугаў сваіх, якія
праведным, чэсным і
мудрым жыццём і
дзейнасцю вялі б Народ
да лепшае долі... Багаславі
нашы сем'і, каб у кожнай
з іх дбалы бацька і
ахвярная маці, злучаныя
шчыраю святою любоўю,
выхоўвалі Табе на славу,
а Бацькаўшчыне на
карысць сваіх дзетак.
Асаблівую ласку дай
нашай моладзі, каб яна
атрымала глыбокае
хрысціянскае ўзгадаванне,
і ўзрасла на карысных
сыноў і дачок свайго
народу..."

Малітоўнік для беларусаў.
*Рым, 1946.*

SUMMARY

***Working with folklore Tatyana Volodina associates the tradition of worshipping on the day of Raising the Holy and Invigorating Cross of our Lord with the hopes of revival in Belarussian values.***

# ПА-НАД МЕЖАМІ

OVER THE BARRIERS

## Адлётныя згукі нябёсаў

### Фенамен птушыных вандровак на поўдзень і назад толькі ўмоўна можна пазначыць як пошук вечнай вясны



*Яшчэ крыху часу - і пахаладнелае неба над абшарамі Бацькаўшчыны прыме ў дарогу незлічоныя чароды птушак. У паўднёвым напрамку паляцяць ад нас пеначкі і шпакі, рабіннікі і чарацянкі, варакушкі і гарыхвосткі, конікі і шчаранкі, ластаўкі і стрыжы. Пакіне лугавыя зараснікі бугай, развітаецца з любімай ракою чапля, памахае крыламі над сырымі альшанікамі журавель, дзесь высока над нёманскай поймаю ўзнімецца бусел... Пачуеш з нябёсаў дарагія адлётныя згукі - і смутак агорне душу: гэта восень, гэта расстанне з радзімай.*

Здольнасць птушак адлятаць у далёкі загадкавы вырай і вяртацца на тое ж месца паводле календара спрадвек захапляла і вабіла чалавечы розум. Найперш паўставалі пытанні адносна арыентацыі: праз якія механізмы птушка знаходзіць сабе дарогу? Адразу думалі, па сонцы. Але ж чароды ляцелі і ў начны час. Дапамагала зорная карта? Аднак, зноў жа пытанне. Дзе тая нябачная стрэлка, што паказвае адзіны напрамак, калі птушкі не спыняюцца і ў непраглядную цемень?

З развіццём навукі, назапашваннем ведаў ды дзякуючы розным цікавым эксперыментам, хутка ўразумелася, што птушкі адначасна рэагуюць і на сонца, і на зоркі, і на даўжыню дня, якая з'яўляецца для іх сігналам пачатку ці завяршэння міграцыі... Словам, прыйшлі да высновы, што птушка кіруецца не чымсьці адным, а што яна здольная рэагаваць на мноства сігналаў, якія зыходзяць ад знешняга свету. Пасля таго, як на ўзбраенне была ўзятая так званая комплексная тэорыя, натуральна, пабольшала і разумення самога феномена птушынай арыентацыі.

Сёння ёсць дадзеныя, якія сведчаць, напрыклад, што птушкі падчас пералёту кіруюцца адчуваннем пахаў, прынамсі, тае мясцовасці, якая ёсць іхняй радзімай. У птушак выдатная таксама зрокавая памяць, з дапамогай якой яны здольныя запамінаць шматлікія дэталі, абрысы, той альбо іншы малюнак ландшафту.

Але вырай – гэта не толькі феномен дакладнай арыентацыі птушак на вялізных разлегласцях свету. Гэта яшчэ шэраг іншых загадкавых з'яваў, звязаных с пералётамі. Відавочнае часам лёгка губляе дастутную якасць і робіцца неверагодным. Але – прыцягальна вытлумачальным. Прынамсі, вытлумачальным настолькі, наколькі мы ўважліва ўглядаемся ў твар прыроды і наколькі глыбока ды грунтоўна вывучаем яе таямніцы.

Французкі пісьменнік ды інтэрпрэтатар прыродных з'яў **Жорж Блон** напісаў кнігу *"Вялікія качэўі"*, у якой шмат месца адвёў птушыным вандроўкам. Фрагмент кнігі працягвае тэму.

З надыходам суровых часінаў птушкі многіх раёнаў нашай планеты пакідаюць родны край і выпраўляюцца ў вырай – туды, дзе паводле засвоенага імі досведу папярэднікаў умовы жыцця гэтым часам больш спрыяльныя.

Гэтая фраза, якую вы прачыталі як нешта зусім відавочнае, на справе ўсяго толькі заагуленая дый недакладнае пазначэнне сезонных міграцыяў. Птушкі не кіруюць следам за сонцам, як гэта робяць заможныя сем'і, якія нядаўна яшчэ бавілі зімы на Лазурковым беразе.



* апошні след,
* чайка ў палёце (здымак уверсе);
Фота: Вільгельм Дубіловіч.



Фота: Ігар Бышнёў

Па-першае, не ўсе птушкі з набліжэннем зімы пакідаюць свой край. Па-другое, калі ёсць спадчынны досвед, — якім чынам ён склаўся?

Мне здаецца, што самы просты спосаб падыйсці да гэтай загадкі – даць слова вучоным, якія вялі ці ўсё яшчэ вядуць пра гэта дыскусіі-спрэчкі. Я не маю намеру цалкам выкладваць канкрэтныя навуковыя аргументы – на гэта спатрэбіліся б цэлыя тамы, — проста хачу даць пра іх сціслыя звесткі, стараючыся як найменш іх зынчаваць.

Уявіце сабе, што мы сабралі каля магнітафона колькі вучоных, якія далі згоду выкласці свае погляды, тэорыі, гіпотэзы. Няважна, што адны з іх належаць даўняму часу, другія больш сучасныя – мы ўвогуле пра гэта нічога не ведаем. Давайце назавем кожнага суразмоўцу імем, якое больш або менш адпавядала б ягонай тэорыі.

**Прафесар Эацэн.** — Каб разгледзець пачатак і прычыну сезонных пералётаў птушак, трэба павярнуцца да незапомных часоў. Прыканцы трацічнага і на пачатку чацвярцічнага перыяду клімат Зямлі быў куды цяплейшы, чым цяпер, часіны года амаль не розніліся паміж сабой. Тады ў вырай птушкі не адляталі; навошта было ім куды ляцець, калі увесь год нічога вакол не мянялася? Малапамалу з прычынаў складаных ды розных тэмпература на Зямлі паніжалася. Некаторыя звяры пачалі адкачоўваць у паўднёвыя шыроты. А іншыя, менш кемныя ці больш стойкія, пакрыліся густым і цёплым футрам.

Што да птушак, дык найбольш лёгкія па пад'ём падаваліся далей за сонцам, каб жыць увесь год там, дзе стае цяпла ды дзе можна знайсці сабе ніштаваты корм. Аднак, падуладныя біялагічнаму закону, згодна з якім усё жывое мусіць трымацца месцаў сваіх народзінаў, яны навучыліся павяртацца штогод у родныя мясціны, як толькі там настае спрыяльны час. Паступова звычка ўкаранілася і ў рэшце рэшт зрабілася правілам.

**Прафесар Не-зусім-так.** — Тады чаму ж не ўсе птушкі зрабіліся пералётнымі? Гэтулькі відаў засталіся дамаседамі, а некаторыя віды — часткова пералётныя, часткова аселыя? Я б хацеў, каб у святле сваёй тэорыі мой сабрат-навуковец патлумачыў нам, да прыкладу, паводзіны варанячых на працягу стагоддзяў. Цяпер яны сялібуюць па ўсім зямным шары і перамяшчаюцца мала. І ў якіх жа раёнах Corvus corax, воран, аказаўся найбольш аселым? У палярных! Ці варта называць іншых аселых птушак прыпаляр'я! Белая сава, белая курапатка, белая чайка, чайка Роса. Птушкі гэтыя відочна прыстасаваліся да жыцця ў суровых умовах. Чаму ж іншыя не прыстасаваліся, а пачалі адлятаць? Або, калі ўжо на тое, чаму вышэйназваныя мною птушкі палічылі за лепшае прыстасавацца? Тэорыя, якая допускае гэтулькі выключэнняў, здаецца мне не вельмі надзейнай.

**Прафесар Тэрмас.**— Што датычыць мяне, я падтрымліваю тэорыю, аналагічную той, што выклаў нам доктар Эацэн, толькі ў пэўным кшталце процілеглую ёй. Я лічу, што птушкі, якія цяпер адлятаюць у вырай, жылі раней у самых гарачых краінах і толькі параўнальна нядаўна, з геалагічнага гледзішча, менавіта пасля ледавіковага перыяду, прасунуліся бліжэй на

заканчэнне на с.5

SUMMARY

***Flying over to warm countries (straight to Paradise, as it is popularly believed in Belarus) the birds leave a great deal of questions to humans: due to influence of which factors had their hereditary experience been adopted? Why don't all the birds fly away? The aim of publishing is to generalize the knowledge of this question and to draw readers' attention to diversity and interconnections of world creation. The extract from 'The Great Nomads' written by George Blone is being published at the moment.***

поўнач і пачалі там віць гнёзды. Калі захаладае, яны вяртаюцца на сваю першапачатковую радзіму, адлятаюць на поўдзень.

**Прафесар Не-зусім-так.** — Гэткае ж спрэчнае тлумачэнне, як і папярэдняе. Я рашуча даводжу, што, калі б справа была толькі ў клімаце, нашы пералётныя птушкі маглі б лёгка да яго прыстасавацца, як прыстасавалася мноства іншых жывёлаў.

**Прафесар Эацэн.** — Але ж птушкам куды прасцей адляцець!

**Прафесар Не-зусім-так**. – Ну добра. А цяпер скажыце нам, як гэта пачалося. Хто падказаў першай адлётнай птушцы, што хутка ёй не будзе чаго есці і што ёй пагражае голад? Апроч гэтага, адкуль яна ведала, што ў іншых краінах яе чакае больш цёплы клімат? Вы ж паглядзіце, калі бяруцца надзвычайныя халады, ніводны з аселых відаў нікуды не адлятае. Так, птушкі застаюцца на месцы, а палеанталогія даводзіць нам, што тыя, хто не прыстасаваўся, вымерлі, не ратуючы сябе ўцёкамі.

**Прафесар Космас.** —Гэтая тэорыя пра пошук вечнай вясны грунтуецца, вядома, на вельмі спрэчнай падставе. Мяркую, сезонныя міграцыі не адвольны акт. Пералётную птушку залучае насуперак яе волі магутны касмічны паток, якому яна не здольная супраціўляцца. Пры змене часінаў года адбываюцца значныя электрамагнітныя змяненні, і тады ў птушак выяўляецца гальванатрапізм, што ўздзейнічае на ўсе клеткі іх арганізма і вытлумачвае прычыну неадольнае цягі рушыць у шлях нават да надыходу халадоў альбо моцнай спякоты. Гальванатрапізм не толькі прымушае адлятаць, але задае потым і накірунак шляху.



* зімародак — індыкатар чысціні нашых рэчак

Фота: Ігар Бышнёў

* чорны дрозд

Фота: Вільгельм Дубіловіч



**Усе вучоныя разам**. — Так, дарагі калега, вы ўжо вылучалі гэтую тэорыю гальванатрапізму, але ў вас больш перакананасці, чым доказаў. Гэта смелая, нават паэтычная гіпотэза, але не больш.

**Прафесар Прамень Святла.** – Цяпер дазвольце мне сказаць сваё слова. Пералётныя птушкі, як мне падаецца, падпарадкуюцца ўздзеянню святла.

Прыток сонечнай радыяцыі вясною павялічвае ў птушак актыўнасць палавых залозаў і, такім чынам, пабуджае да руху, кліча ў дарогу. Штучна асвятляючы птушак зімою, вучоныя дамагаліся заўчасных міграцыяў.

**Прафесар Не-зусім-так.** — Але гэта ваша "вясновая" тэорыя не можа патлумачыць асеннія пералёты. Да таго ж, калі надыходзіць пара выраю, спакладаныя птушкі зрушваюцца, як і ўсе астатнія.

**Прафесар Комплекс.** – Апошнія даследванні паказалі, што асвятленне не ўплывае непасрэдна на палавыя залозы, а хутчэй на гіпофіз. Пад уздзеяннем святла як вясной, так і ўвосень назіраюцца зрухі ў абмене рэчываў, што і выклікае ў птушак позыў да пералётаў.

**Прафесар Не-зусім-так.** — Усё гэта досыць складана і не патлумачвае нам, чаму светлавыя перамены ўплываюць на адных птушак, якія становяцца пералётнымі, і пакідаюць абыякавымі іншых, аселых. Дый у большасці відаў вясновы імпульс узнікае тады, калі гэтыя птушкі знаходзяцца ў экватарыяльных краінах. Гэта значыць у такім поясе Зямлі, дзе працягласць дня амаль не мяняецца круглы год.

Спынім магнітафон. Даследванні апошняга часу сапраўды дазваляюць думаць, што ў пералётных птушак цяга ўзнікае ў часе змяненняў нервова—эндакрыннай сістэмы. Гэтыя змяненні звязаны з дзейнасцю пэўных залозаў (першаперш, шчытападобнай), што дазваляе птушцы рэагаваць на самыя тонкія касмічныя перамены. Можа, занадта тонкія для нашага ўмення іх выявіць. На аселыя віды гэтыя перамены ўплыву не маюць, бо ў іхняй нервова-эндакрыннай дзейнасці не адбываецца значных зрухаў. Такі ў сціслым выглядзе механізм уздзеянняў, і можа стацца, што ён праўдзівы не толькі для птушак, але і для ўсіх качэўных жывёлаў. Ці будзе ён калі-небудзь спасцігнуты цалкам? "*Таямніца знікае надзвычай рэдка,* — пісаў Метэрлінак, — *часцей за ўсё яна толькі мяняе месца. Але для нас вельмі важна і пажадана дамагчыся гэтай перамены месца*".

*Так напісаў Жорж Блон у сваёй кнізе "Вялікія качэўі". Фрагмент належыць адной з навелаў, якая называецца "Птушыная Адысея". За трыццаць гадоў па выхадзе кнігі ў свет тэорыі несумненна абагаціліся новым досведам, што хутчэй пацвярджае выказванне Метэрлінка, чымся перакрэслівае якую з гэтых тэорый.*

*У адным з акадэмічных кабінетаў я адшукаў чалавека, які згадзіўся далучыцца да "круглага стала", дзе памяркоўна спрачаліся прафесар Эацэн з прафесарам Не-зусім-так. Арнітолаг Міхаіл Нікіфараў прапанаваў не шукаць якую-кольвек адну "падставу", а глядзець на феномен міграцыі комплексна, у святле розных тэорый. Ён гатовы паспрачацца з кожнай, але адначасна ў кожнай знайсці каліва рацыі. Пералёты, безумоўна ж, ёсць з`явай цікавай і надзвычайнай. Сенсацыі, аднак,рэч не для вучоных, зазначыў Нікіфараў. Тое, што бачым, — адно з відавочных сведчанняў прыродаўладкаванасці,*



*злепак фізіялагічных, кліматычных, псіхалагічных асаблівасцяў жывога свету, якія караняцца ў біялагічнай разнастайнасці і шматаблічнасці законаў светабудовы.*

*Пошук вечнай вясны паводле Блона - хутчэй рамантычная, чым строга навуковая, і крыху схаваная флёрам таямнічасці з`ява. Шмат каму яна дадасць прыемных эмоцый ад судакранання з прыродай, нехта яшчэ раз з захапленнем паглядзіць у асеннюю неба пад жураўліны акампанемент.*



* кулік перад выраем (здымак справа)

Фота: Ігар Бышнёў (Неруш-прэс)

* а гэтай пары нікуды выпраўляцца не трэба. Адно што — радаваць гаспадыню падворка прыгажамі ды ахвярна чакаць Каляд.

Фота: Аляксей Мацюш (Неруш-прэс)

# Мільён плужкоў для сядзібнай дзялянкі

## Дажджавы земляны чарвяк: чым больш у глебе, тым яна лепшая

*Гэты земляны ратай, перапрацоўваючы ў сабе часцінкі глебы, апалае лісце, сухую траву, ды шмат якіх іншых біялагічных рэштак, паляпшае аддачу гектараў у 5-6 разоў. З яго дапамогай можна атрымаць выдатнае экалагічнае ўгнаенне -* ***вермікампост.*** *Нарэшце, любы аматар прыроды (ён жа фактычны ці патэнцыйны землекарыстальнік, а значыць, і носьбіт* ***экалагічнай культуры земляробства****) здольны развесці "санітараў зямлі" столькі, колькі палічыць патрэбным.*

***Уладзя Ляская***

Мінулым разам (гл. "БП" №3, 1998) мы дакляравалі падрабязна распавесці пра тое, як можна ў сваёй гаспадарцы займець маленькую "ферму" земляных чарвякоў. Адразу ж заўважым: практыка прамысловага развядзення "архітэктараў урадлівасці" існуе ў ЗША і Канадзе, Італіі і Нямеччыне, Японіі і Вялікабрытаніі. Што ўжо казаць пра дачных аматараў — яны даўно запусцілі ў свае соткі чароўны "плужок", гэта значыць, чырвоных дажджавых чарвякоў уласнага заводу, а самі купаюцца ў садовым басейне або падстрыгаюць ружы — і ўсім добра!

Цяпер да пытання – якім чынам? Калі вывучылі біялогію і фізіялогію дажджавога чарвяка, зразумелі, што ў адной асобіне спалучаны як мужчынскія так і жаночыя прыкметы полу. Але злучаюцца яны парамі; пасля гэтага праз 20 дзён можна чакаць, як з кокана выпаўзуць маленькія празрыстыя чарвячкі даўжынёю 10-15 міліметраў. Яны хутка прывыкаюць да асяродку свайго нараджэння і калі іх ніхто не з'есць, а навокал будзе хапаць яды, — праз два-тры месяцы немаўляты стануць чырвонымі, карычневымі, шэрымі ці нават зялёнымі дарослымі чарвякамі. У іх добра відаць сегменты - папяросачныя колцы на целе. Асабліва прыкметны пасачак, падобны на павязку, — патоўшчаныя сегменты. Ён бліжэй да галавы. Калі "павязка" выразная, значыць, чарвяк можа прадукаваць такіх як ён сам. Праз кожныя 7-10 дзён з'яўляюцца новыя і новыя коканы.



Фота: Лявон Кісялёў

Калі падлічыць, атрымаецца, што з аднае асобіны можна мець пры належных умовах 1200-1500 чарвякоў у год. Маючы 2000 дарослых чарвякоў, за год магчыма атрымаць патомства больш за мільён, а за два гады – мільярд чарвякоў і коканаў. Фантастычная лічба, ці не так? Уявіце гэткую колькасць "плужкоў", якія паглыбіліся ў земляныя пласты планеты! Дарэчы, чарвякі пачалі разворваць зямлю куды раней за чалавека з ягонай сахою і плугам.

Нарэшце, колькі зусім канкрэтных падказак. Вазьміце драўляную скрынку 60х40х20 сантыметраў, як раіць часопіс "Юны натураліст". Запоўніце яго на палавіну сумессю: 1/3 глеба, 1/3 пясок, 1/3 гной (альбо гнілы пустазел, адходы з кухні). Усё гэта перамяшайце і пакіньце масу прэць тыдні два. За гэты час накапайце дажджавых чарвякоў. Скарыстайцеся палатняным мяшэчкам, куды пакладзіце зямлі ды надайце ёй вільгаці. Лепш за ўсё чарвякоў браць з гною, добра і ў лесе. Прыдатныя толькі тыя, у якіх ёсць "павязка". Запусціце ў падрыхтаваную сумесь 20 сабраных чарвякоў (гэтай колькасці вам дастаткова), і два тыдні не падыходзьце да скрыні. Няхай асвойтваюцца вашыя навасельцы!

Праз месяц пасля эксперыменту дайце чарвякам паесці — раскідайце па паверхні скрыні гной ці іншую якую арганіку. Вазьміце вілкі і вельмі асцярожна, каб не пашкодзіць чарвякоў, перакапайце зямлю. Цяпер карміце чарвякоў кожныя дватры тыдні. Сумесь у скрыні заўсёды павінна быць вільготная, а тэмпература паветра ў сярэднім 22-27 градусаў. І не забудзьцеся паліць або прыбраць скрыню на выпадак заморазкаў ці ў спякоту: інакш чарвякі загінуць. Выгадаваных чарвякоў і перапрацаваную імі ў скрыні глебу можна скарыстаць як вермікампост на прысядзібным участку.

Напаследак варта прыгадаць яшчэ адно цікавае сведчанне. Недзе дваццаць гадоў таму, у сярэдзіне 70-х, Японія набыла 130 тон дажджавых чарвякоў. Не дзеля спажывы птушкам ці рыбам, не дзеля саду ці агароду, а на развядзенне і выкарыстанне — гэта значыць, з культурна-гаспадарчым разлікам на перспектыву.

SUMMARY

***Surprisingly, the main characters are the incommensurable red rain worm and Belarussian zubr. But Nature makes everyone equal.***



# Зубр не любіць бесцырымоннага абыходжання і на крыўду адказвае крыўдай

Сённяшнія так званыя сельскагаспадарчыя ўгоддзі з фермамі, дарогамі, тэхнікай, што падступаюць да самай Белавежскай пушчы, колькі стагоддзяў назад былі суцэльным лесам. Можа таму і зубры, якія пакідаюць звыклы гушчар і почасту кіруюцца да бліжэйшых вёсак, трымаюць сябе тут не менш ганарова, чым у лясных шатах. Чалавеку нічога не застаецца як з замірэннем ставіцца да візітаў, часам досыць грабежніцкіх, ведаючы пра сваю віну перад пушчанскім абарыгенам. Бо, па справядлівасці, гэта на яго, зубрыную тэрыторыю замахнуліся людзі, калі драбілі Пушчу, адбіралі ў яе спаконвечныя плошчы пад свае сядзібы-дзялянкі.

Вёска Дабраволя, што ў Свіслацкім раёне, мабыць, тыповае паселішча, якое падзяляе свой лёс з вялікім лесам: Пушча зусім недалёка. І асілкі-зубры, скарыстоўваючы такое суседства, маюць звычай сюды наведвацца як толькі ад вёскі пацягне чым-небудзь смачным, пажыўным: сенам, сенажом ці сіласам.

Выпадак, што здарыўся колькі гадоў таму, мне прыгадалі тут як доказ зубрынай рахманасці, якая ў рэшце рэшт калі-небудзь канчаецца. На жывёлагадоўчую ферму, акурат на раздачу кармоў завіталі зубры, каб разам з дойным статкам пасталавацца за калгасным харчам. Людзі даўно не зважалі на гэткія вольнасці пушчанскіх няпрошанцаў. Можа, пабойваліся, ці не хацелі псаваць адносіны. Але гэты раз у падвозчыка не хапіла памяркоўнасці, і ён, схапіўшыся за вілы, агрэў па спіне старога важака. Не думаў чалавек, на каго падымае руку, і зубр не прамінуў пра сябе напомніць. Ён імгненна развярнуўся і з гнеўным бляскам вачэй рушыў на чалавека. У момант падхапіў свайго злосніка на рогі, адкінуў убок і пакіраваў прэч з двара – "вочы б мае вас не бачылі!" Тымчасам бедалага-падвозчык на "хуткай дапамозе" ратаваўся ад не смяротных, але адчувальных "кухталёў".



Фота: Уладзімір Дацкевіч

Калі я пачуў пра гэты выпадак, адразу прыгадаў пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, які папярэджваў: на бесцырымоннае прыніжэнне зубр можа адрэагаваць нечакана і з вялікай доляй небяспекі. Мауляў, даводзіў Караткевіч, зубр паводзіць сябе як тыповы беларус: гневаецца тады, калі ўжо зачапілі яго за самае рабро. Накont беларуса можна і паспрачацца, бо ён, мяркуючы па сённяшнім часе, нібыта развучыўся гневацца. Больш цярпіць. А вось зубр... Тут чалавеку трэба заўсёды быць пільным і не вельмі ўжо хапацца за вілы, а больш мудра глядзець прыродзе ў вочы і бачыць там сябе самога, стрымліваць свае непамерныя амбіцыі. Ды не забывацца, што колькі стагоддзяў таму на нашых абжытых сядзібах шумеў першабытны лес і пасвіліся... зубры.

***Уладзімір Пугач***

# На мяжы, паміж летам і восенню

*Васіль Феранц. Журналіст, краязнавец. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў маляўнічым кутку беларускага Палесся, у Жыткавіцкім раёне. Працуе ў выдавецтве "Ураджай", выпусціў у свет шэраг кніг серыі "Памяць", у якіх адлюстравана гісторыя і прыродна-культурная спадчына палескага краю.*



**Васіль Феранц**

## Сосны

Дзень халаднаваты, нібы і не летні. Калючы, быццам восеньскі вецер. У зацішку яшчэ сяк-так, а ў полі зусім няўтульна. Як добра, што ёсць лес! Асабліва сасновы. На першым паверсе хмызнякі і ажына надзейна асланяюць ад парываў ветру; ён шуміць голлем дрэў недзе высока і не здольны апусціцца ніжэй. Ад старой сасны, калі да яе прыхінуцца, цягне слабым, але выразным цяплом, нібы ад учора напаленай печы. Навобмацак, рукой, чуеш лёгкае цяпло кары. І паветра навокал дрэва лёгкае, гаючае...

## Рознае лета

Лета бывае рознае. Дзе яго пачатак, калі канец, дзе мяжа? Здаецца, учора дрэвы былі голыя, без лісця. Праз голле слізгалі сонечныя промні, а сёння ўжо непрывычна цямнеюць шаты, ляжаць густыя цені, і ў невялікім ляску сярод яснага дня стаіць паўзмрок. Так непрыкметна, пад флейтавыя гукі простай і меладычнай песні вішнёўкі пачынаецца лета...

Потым яно будзе маладым, у свежай зеляніне, звонкае і светлае. Лета спелае – у самым сваім зеніце, у ліпені; гэта макаўка лета... Нечакана прыходзіць жніво – светлыя росы, зорныя ночы. І ўсё бліжэй да свайго шчодрага заходу, калі закончаць работу ў полі камбайны і ў начной цішыні пачнуць бухаць яблыкі ў садзе; лета з гэтага часу – з кожным днём усё шпарчэй – пакоціцца ў вільготныя абдымкі восені.

## Рэчка спіць

У кожнай рэчкі свой нораў, характар, свае справы, свой лёс. Праводзяць нагружаныя баржы, адорваюць рыбакоў вялікай і малой рыбай, нясуць прахалоду і вільгаць у спякотны дзень. Рэчка – гэта заўсёды жыццё.

Стомленыя, рэчкі засынаюць у канцы дня – малыя раней, як толькі сонца закоціцца за небасхіл, большыя – пазней. А вялікія, мусіць, толькі апоўначы. Заціхаюць усе гукі навокал, менш прыкметныя робяцца хвалі, радзей усплескі, уздыхі соннай рэчкі — яна задрамала да раніцы.

## Такая хвіліна

Каля калгаснага мехдвара добра прыкметна рэчышча высахлай рэчкі. Крутыя, абрывістыя берагі, на якіх стаяць у задуменні старыя дубы, – дрэнныя вартаўнікі, не ўпільнавалі рэчку... Колішняе дно – быццам засланы стол. Замест воднай гладзі – роўная, нібы пастрыжаная пад грабёнку, тонкая, мяккая асочка. Вецер лагодзіць яе, а здаецца, што коціць хвалі вады.

Наступіла такая хвіліна, нядоўгая, але выразная, калі ўсё заціхла; асака палегла хвалямі і сцішылася – каб хоць адна травінка паварушылася. У гэтую хвіліну на ёй спіць вецер. Адзін неасцярожны рух — і ён можа прачнуцца...

## Лісце

Дрэвы губляюць лісце не толькі ўвосень. Нямала іх падае долу, як толькі адшуміць маладой лістотай зялёны зачын лета, у сухое надвор'е, у спёку. З кожнага дрэва лісце падае па-рознаму. З клёна – гайдаючыся, як у калысцы. З бярозы – як медныя манеты, непрыкметна і імклівa. З альхі — закручваючыся вінтом. Прадаўгаватыя лісцікі вербаў -- бы рыбкі ў вадзе. Зусім не так з дуба: важкі ўзорысты ліст падае цяжка, перакульваючыся з боку на бок, як падстрэлены птах.

## На вадапоі

Каровы, што забрылі ў гарачы дзень на вадапой, здаецца, не супраць і пакупацца. Нешта шукаюць, прынюхваюцца да вады, залазяць далей і глыбей. Адна, чорна-пярэстая, забрыла амаль да сярэдзіны рэчкі. Вада перакочваецца ўжо праз спіну... Выбіраліся няспешна, адна за другой, адпачывалі. З мокрых брушын доўга сцякалі струменьчыкі вады.

А пастуху, тым часам, таксама адпачынак – пад старым каржакаватым дубам.

## Семечка

Семечка клёна ўпала мне на плячо. Адзін рух — і яно можа згубіцца, упасці. Але я не стаў гэтага рабіць, сцішыў хаду. Няхай пойдзе са мной, куды іду я, і ўпадзе недзе далей, у іншым месцы. І там, далей, вырасце другі клён.

SUMMARY

***I**n his lyric book the author sins the praise of nature in Poles'ye. He is also very sorry for its lost values. The description of heather is the first melancholic reminder of the coming autumn.*



Фота: Аляксандр Гутоўскі

***Зацвілі верасы...*** *І сэрца раптам адчуе тугу, закволіцца ды абжаліцца ў прадчуванні зусім ужо блізкай асенняй пары.*

## Першы смутак па леце

***Людміла Дворак,** батанік (Нацыянальны парк "Белавежская пушча")*

*Ярка-шыкоўныя дываны разаслала на зямлі лета; не паспелі азірнуцца, — а ўжо апошнія кветкі аздабляюць яго адыход. Золкі асенні ранак лёг ліловa-ружовай смугой на зялёную мшаную коўдру ў стромкім сасняку. Лёг і застаўся, не зважаючы на гарачы і сонечны, амаль што ліпеньскі дзень. Гэта зацвілі верасы. З году ў год, перш чым распаліць свае вогнішчы, восень упрыгожвае лес лёгкімі, празрыстымі і крыху сумнымі, як дарагі ўспамін, воблачкамі верасу. Каляровая выспачка зблізку аказваецца мноствам тонкіх адзеравянелых галінак з маленькімі, падобнымі да іголачак або лускі вечназялёнымі лісточкамі ды ліловa-ружовымі кветкамі.*

*Мала каму вядома, што пялёсткі верасовай міні-кветкі амаль нябачныя і схаваны пад боль-шымі ад іх долямі чашачкі, якая ў іншых нашых кветак зялёная і часта непрыкметная, а вось іхнія каляровыя пялёсткі — галоўная ўцеха для нас і прынада для мошак, што прагныя да нектару. Але нават калі не глядзець на верас вачыма батаніка, нават калі забыцца на верасовы мёд, на лекавыя ўласцівасці расліны, — верас застанецца для нас сімвалам надыходу восені. Нездарма беларусы, украінцы, палякі завуць першы асенні месяц вераснем.*

*Вяртаючыся дадому з грыбнога паходу, пакладзіце ў кошык галінку верасу. Нават у сухім букеце яна захавае свой колер, выгляд і паранейшаму будзе свяціцца дзівосным, амаль няўлоўным асеннім смуткам, падобным на дарагі ўспамін.*



Фота: Уладзімір Блінoў

# Перад красой пейзажа

**Джон Роскін**

Класы людзей, якія павырасталі сярод прыроды, далёка ад гарадоў, почасту не разумеюць хараства пейзажу. Хараство жывёльнага свету больш даступнае ім, хоць, зрэшты, і ў гэтым можна ўсумніцца. Не хараство жывога, а перш-наперш адзнака ягонай карыснасці, зразумелая селяніну. Але пакіньма пакуль што пытанне ўбаку; я дазволю сабе выказаць галаслоўнае меркаванне, а затым абяцаю пацвердзіць яго ўгрунтаванымі доказамі.

Толькі развітныя людзі могуць бачыць хараство пейзажу; толькі музыкай, літаратурай і жывапісам даецца развітнасць. Прыдбаная гэтакім чынам, яна пераходзіць у спадчыну; нашчадак развітнага роду мае чуласць да хараства з нараджэння, яно карэніцца ў тых мастацтвах, якімі ягоныя продкі займаліся не адну сотню гадоў да таго, як ён нарадзіўся. Зазначце наступную рысу, адну з найцудоўных рысаў чалавечай прыроды. Нашчадкі высакародных слаёў, выхаваныя на творах мастацтва і заахвочаныя да слугавання на ніве вялікіх спраў, бачаць у пейзажах сваёй радзімы дарагія ўспаміны; гэтае пачуццё немагчыма намовіць альбо перадаць каму-небудзь, яно бывае адзіна ад нараджэння; гэта — ўзнагарода й вянец на доўгае, вялікае гістарычнае жыццё народа; слава вялікіх продкаў доўгім шлейфам стагоддзяў распасціраецца на тую зямлю, дзе калісьці яны жылі. Тайніца Дэметры, мацярынства зямлі, якая ўсіх нас нарадзіла і ўсіх нас схавае ва ўлонкі свае, атуляе нас і абуджае ў нас трапяткое замілаванне перад полем альбо ручаінай; тайніца, поўная свяшчэннага абавязку, дадае асаблівае значнасці межам Айчыны, якія ніхто не можа парушыць, і вадзе, якую ніхто не наважыцца спаганіць; успаміны пра дарагіх нам людзей, што даўно адышлі, ператвараюць кожную скалу ў надмагільны помнік з таямнічым надпісам і кожнай сцяжынцы дадаюць трагічнай красы запусцення.

У гэтым ёсць глыбокая прычына любві да пейзажа, дадзенай больш або менш нам усім, залежна ад глыбіні пачуццяў.

Зразумець і засвоіць трэба адно, і няхай нас нішто ў гэтым сэнсе больш не бянтэжыць: мы павінны ўсім гартам сваёй маладосці ўспрыняць і адчуць, што нацыя адзіна тады вартая той радзімы, якую займела ад продкаў, калі ўсімі справамі і ўсімі мастацтвамі намагаецца перадаць яе сваім дзецям яшчэ больш прыгожай, чым прыдбала яе.







**Джон Роскін.** *Выбітны англійскі філосаф і культуролаг XIX стагоддзя. Адзін з першых загаварыў пра ахову прыродных нерушаў, зберажэнне куточкаў дзікай прыроды.Зрабіў вялікі ўплыў на фармаванне поглядаў класікаў сусветнай прыродааховы – Г.Конвенца, Я. Паўлікоўскага, Э. Рударфа ды інш. Па-беларуску друкуецца ўпершыню. Працы Роскіна, перакладзеныя на рускую мову, убачылі свет на рубяжы XIX-XX стст. На пачатку 20-х гадоў цыркулярам "замнаркома" асветы Н.Крупскай кнігі Роскіна разам з некаторымі іншымі былі забароненыя да выдачы ў бібліятэках.*

*Пераклад на беларускую мову з-за адсутнасці першакрыніцаў рабіўся паводле выданняў: "Пра эка. Ахова дзікай прыроды". Бюлетэнь, спецыяльны выпуск. Масква, 1996; "Жывая Арктыка". Альманах. Апатыты, 1997.*

*Зважаем на тое, што пры параўнанні рускамоўных перакладаў заўважаны неістотныя разначытанні, таму і пераклад на беларускую мову ў шэрагу выпадкаў мае свае асаблівасці, Але, спадзяёмся, не скажае думкі аўтараў.*

* *фотарэпрадукцыі:*
*Відок на сядзібу. Пінішчына, XIX cm.*

*Тэадор Русо (Францыя). Пейзаж з аратым. XIX cm.*

*Альбрэхт Дзюрэр (Германія). Ландшафт. XV cm.*

SUMMARY

***John Roskin's essay 'Love to the landscape' and the extract from Sizeran's book 'John Roskins' ideas about the beauty of the Nature'(1900) are being published at the moment.***

*Фота: Валерый Дранчук*



*Дрэва, да якога мы падыходзім пешкі і бачым яго, — зусім не тое ж самае дрэва, калі мы бачым яго, набліжаючыся на машыне, хоць фізічна яно застаецца тым самым дрэвам.*

***Свэн Біркерц***





Фота: Уладзімір Бліноў

# Прырода і хараство ў жыцці чалавека

## Замест каментарыя

***Друкуецца паводле:***
***Сізэран Р., Ідэі Дж. Роскіна***
***пра хараство прыроды.***
***Масква, 1900.***

Паспрабуем акрэсліць месца, якое займаюць прырода і хараство ў нашым жыцці. Душа чалавека адкрытая для асалодных адбіткаў малюнкавых краявідаў. Гамай настрояў поўніцца яго сэрца, калі зачараваны пагляд абаймае безмеж горных абшараў ці замілавана цешыцца выглядам зіхатлівага мінерала. Калі чалавек пафіласофску глыбока зацікавіцца прычынамі асаблівага месца прыроды ў ягоным жыцці, ён не скажа, гледзячы на панурыя скалы, як аднойчы сказаў быў вядомы мысліцель: "Якою карысцю маглі б слугаваць яны нам?.. – вядома ж, схованкай дзеля жывёлін!", але пачне асэнсоўваць, ці не створаны яны, каб слугаваць нам школамі альбо храмамі для ўсяго чалавечага роду. Ці не ёсць яны найпрыдатнымі ілюстрацыямі летапісаў для вучонага, добрымі простымі ўрокамі для працоўных, ціхімі прытулкамі для мысліцеляў. Чалавек паспрабуе дазнацца, якою повяззю гісторыя зямных узвышшаў нітуецца з гісторыяй самых узвышаных думак і якую ролю горны відагляд займаў у тым, што грэкі ды італійцы разумова былі наперадзе астатніх народаў Еўропы? Адзначым, напрыклад, той факт, што ў рымлянаў "няма ніводнага мейсца, адкуль не былі б відаць горы, што кладуць характэрную рысу на ўсе пейзажы. Абрысы гор Спарты, Карынфа, Афінаў, Рыма, Фларэнцыі, Пізы і Вероны – красы надзвычайнай; і хоць у развагах грэкаў можна заўважыць долю пагарды і нават пэўную гідлівасць да суровасці гор, аднак той факт, што святыня Апалона была змешчана сярод дэльфійскіх уцёсаў, і ягоны трон на высокагорным Парнасе, ёсць лепшым доказам, што яны прыпісвалі сваё разумовыя памкненні ўплыву гор".

Магчыма, гэтае сузіранне родных малюнкаў прыроды і ёсць крыніцай шматлікіх ідэй, якімі кіруецца свет. Магчыма, на гэтым і трымаецца патрыятызм. Пейзаж – найлюбны вобраз маціайчыны, якую ў іншым выпадку давялося б маляваць сабе ў выглядзе мёртвай адлучанасці або чымсьці накшталт цяжкай каменнай жанчыны, узнятай на плошчы Згоды. Напраўду, калі думаеш пра Радзіму, прыгадваецца не натоўп лысых панурых людзей, што лемантуюць, жэстыкулююць, пры газавым асвятленні парламента ці ўнурана пішуць законы за кратамі канцылярскіх бюро, а нешта зусім іншае: абрысы карункавых даляглядаў, малявідныя рэчкі, што мкнуць сярод долаў, сінеча паўкруглых заліваў, разлегласці далячыняў у чаргаванні палёў і гаёў, вясковыя селішчы паабапал дарогі, дым гарадской панарамы ў сінім вячэрнім небе. І чым прыгажэйшым будзе гэты малюнак, тым больш і любіць будзеш маці-радзіму, берагчы яе першавобраз. Шатландзец, напрыклад, горача любіць сваю радзіму, бо характэрнае адрозненне Шатландыі ад усіх іншых месцаў Паўночнай Еўропы ёсць у выразнай пэўнасці і непаўторнасці рысаў-малюнкаў. Чаргаванне ўзвышшаў уздоўж французскіх рэк як бы дэманструе іх падабенства. Адзін выгіб рова Чорнага лесу ёсць паўторам такога ж самага з процілеглага боку. Але скрозь на ўсёй прасторы Твіда, Тэваа, Гала, Тэі, Форта і Клейда няма, бадай, ніводнага кавалачка рова ці куточка даліны, якіх бы тутэйшыя жыхары не адрознілі ад любога іншага. І, мусіць, няма краіны, дзе ўспаміны б так моцна карэніліся ў малюнках радзімы, нітаваліся з красою прыроды, а не з веліччу людзей; таму так хочацца запытацца ў сябе: ці не павінна гэтае хараство быць найгалоўным клопатам патрыёта, бо менавіта яно, пераважна, і выхавала яго? У рэшце рэшт, што з клопату пра ўвекавечанне ідэі Радзімы, калі мы не будзем рупіцца дзеля ўвекавечання яе вобразу, так дарагога і мілага нам?



## Анонс

У Стаўпецкім раёне, досыць багатым на літаратурна-мемарыяльныя і культурныя традыцыі, дагэтуль абышлі ўвагай рэдкую памятку дзён, якая з часам і пры належнай актыўнасці культурна-экалагічнай грамадскасці, адпаведных дзяржаўных структур і мясцовай улады можа ператварыцца ў надзвычай цікавы *музейны аб'ект пад адкрытым небам.* Не надта рызыкуючы перабольшыць, можна ўжо сёння казаць пра бліскучыя перспектывы гэтай мясціны. Сюды з ахвотай будуць ісці і ехаць паломнікі, каб адчуць і асэнсаваць хаду няўмольнай цывілізацыі. Зрэшты, збірацца ў дарогу можна хоць сёння.

*Рэпартаж у наступным нумары.*

# КЛІЧ КАСАНДРЫ

CASSANDRA'S CALL

# Генетычная трываласць нацыі залежыць ад непарушнасці прыроды і багацця яе краявідаў

## На пытанні карэспандэнта"БП" адказвае антраполаг, доктар біялагічных навук акадэмік Міжнароднай акадэміі экалогіі Аляксей Мікуліч

*Заканчэнне.*
*Пачатак у папярэднім нумары*

**— Вы сказалі: “Прырода ляпіла наша аблічча, замешвала нашу кроў”. Наколькі істотны тут рэгіянальны, мясцовы фактар? Напрыклад, ландшафт: лес, рэчка, поле, узгоркі, балоты – адным словам, геамарфалогія Беларусі?**

— Несумненна, істотны. На пачатку даследзінаў — гэта быў 1966 год – я разлінаваў мапу Беларусі на роўныя 112 квадратаў і затым пабываў на тэрыторыі кожнага з гэтых квадратаў. Вывучалася выключна сельскае насельніцтва, якое трымалася “нораў сваіх”, гэта значыць, абарыгены, тутэйшыя. І вынікі маіх даследзінаў (браліся спадчынныя групы крыві) цудоўна сумясціліся з геаграфічнай мапаю. Дакладней, геамарфалагічнай, ці, на сённяшні дзень, экалагічнай. Прасочвалася і адпаведная скіраванасць зменлівасці генетычных прыкмет. Калі сказаць іншымі словамі, мяняўся край, краявід, геаграфія мясцовасці, рэгіёну — мяняўся і генетычны малюнак этнасу, фізічныя асаблівасці. Найбольш выразна ў этычным плане выглядала Заходнае Палессе. А вектар зменлівасці паводле маёй “крыжаванкі”, праходзіў з Паўднёвага Захаду (пераважна другая група крыві) на Паўночны Усход (пераважна трэцяя група).

Увогуле, геамарфалагічная падпарадкаванасць існавала вякамі. Чалавек жыў у прыродзе і гэтак жа вякамі прырода жыла ў ім, уплывала на ягоны стан і склад. Быццам тая маці, размяркоўвала, раздавала спадчынныя прыкметы. Наколькі розная наша прырода, настолькі ж розныя і мы, беларусы. Я зразумеў гэта і быў нават шчаслівы ў сваім адкрыцці: не адно расліны, жывёльны свет падпарадкоўваюцца прыродзе, навакольным умовам, але і чалавек разам з імі. На той час, а гэта, паўтараю, 60-я гады, я яшчэ не мог ведаць, у чым канкрэтна выяўлялася гэтая падуладнасць.

**— Разнастайнасць папуляцый на тэрыторыі Беларусі — адна з форм гэтай падуладнасці. Наколькі быў верагодны такі вынік?**

— Як тут сказаць? Старэйшыя маскоўскія калегі, якія мне дапамагалі, дужа сумняваліся: “Ды што ў вас там у Беларусі можа быць? Усё перамяшалася, як у тым катле...” Аказалася інакш.

**— Сёння гэта ўжо і фактар перасцярогі: разбураецца біялагічная разнастайнасць – менш выразныя робяцца і папуляцыйныя прыкметы, што не спрыяе ўмацаванню генафонду нацыі, яе генетычнай устойлівасці, здароўю людзей. І наадварот: геамарфалагічная ўстойлівасць, гэта значыць, захаванне экалагічнага фону той ці іншай мясцовасці, на якім стагоддзямі фармавалася папуляцыя, ёсць пэўным гарантам устойлівасці і захавання этнасу, фізічнага здароўя. У такім разе, Аляксей Ігнатавіч, правамерна задаць Вам яшчэ адно пытанне. Каб захаваць у сабе спадчынныя асаблівасці, я павінен ведаць экалагічны фон сваіх папярэднікаў і следаваць тым умовам, якія былі для іх вызначальнымі...**

— ...і якія былі іх калыскай на працягу многіх тысячагоддзяў. Возьмем тое ж Палессе. Найадметны рэгіён па сваіх прыродных асаблівасцях. Аднак за апошні час *аптымальны* варыянт прыроднага фону моцна, адчувальна парушаны. А менавіта ж да яго і быў *аптымальна* “прывязаны” паляшук.

**— Значыць, па-першае, сёння трэба казаць пра неабходнасць вяртання Палесся з ягонымі адвечнымі прыроднымі асаблівасцямі. Так?**

— Безумоўна. І не толькі Палесся.

**— Па-другое, ці ёсць у Вас падставы сведчыць пра цяперашнюю непрыстасаванасць насельніцтва ў сувязі з экалагічнымі парухамі?**

— Яны досыць агульнавядомыя. Што да нашых даследванняў, тут, як я ўжо казаў, аб'ектам былі адзіна здаровыя карэнныя людзі сельскай мясцовасці. Аднак, бываючы ў розных кутках Беларусі і маючы вялікі запас назіранняў, я даўно бачу, якія змены адбываюцца ў сэнсе біяхімічных, фізіялагічных і медыка-біялагічных асаблівасцяў чалавечага арганізма. Больш за тое. Мы бачым новыя хваробы, што ёсць прычынай гэтай зменлівасці.

Шкодныя хімічныя злучэнні, што цяпер паўсюль з намі, ды яшчэ на фоне вялікай радыенуклідынай рызыкі і алкаголь-тытунёвай залежнасці, абцяжарваюць і паніжаюць імунітэт. Як малых, так і старых. Наступ экалагічнага бруду павялічыў частату алергічных хваробаў. Мутагенная эфектыўнасць радыяцыйных і хімічных фактараў абавязкова накліча рост спантанных абортаў, спадчыннай паталогіі, мёртванароджаных дзяцей.

Бадай, нішто так не “падрэжа” меркаваную працягласць жыцця сённяшніх немаўлят як сардэчнасасудзістыя хваробы: паводле разлікаў, для мужчын яна будзе складаць 63 гады, для жанчын – 74, а разам – 69 гадоў. Катастрафічна мала! Генетычная праграма чалавека пры аптымальных умовах здольная працаваць яшчэ столькі ж – менавіта ўдвая больш.

На жаль, павялічылася смяротнасць немаўлят ва ўлонні жанчыны. Ужо на такім узроўні плод становіцца ахвярай непрыстасаванасці да таго, чым харчуецца маці, якую ваду яна п'е, якое паветра ўдыхае .

Дарэчы, днямі я быў на сваёй радзіме і сутыкнуўся з выпадкам цяжкага атручэння нітратамі месячнага дзіцяці. Як высветлілася, доза атрыманых нітратаў будучага беларуса, майго земляка, перавысіла дапушчальную ў пяць разоў.

**—Тым часам нітраты хто-ніхто з навукоўцаў пасляшаўся абвясціць ледзь не бяскрыўднымі спадарожнікамі чалавека. Ці возьмем той жа бензін з утрыманнем свінцу. Выкарыстоўваецца дагэтуль, спраўна забяспечвае насельніцтва Беларусі ўстойлівым паражэннем мозгу і павялічвае рызыку для здароўя, асабліва дзяцей. Аднак выкарыстанне этыліраванага бензіну не забаронена, а выхлапнога чаду на вуліцах і дарогах больш і больш.**

**Вось тут, Аляксей Ігнатавіч, я і хачу вярнуцца ў пачатак нашай гаворкі. Шапказакіданне экалагічных праблем зноў, як і дзесятак гадоў таму, становіцца ў Беларусі цалкам дапушчальнай з'явай і змагацца з ёй вельмі цяжка, бо ў дзяржаве пануе ўлада аднаго, папіхаюцца дэмакратычныя прынцыпы.**

**Нядаўна мы разам з Вамі прысутнічалі на калегіі Мінпрыроды і былі сведкамі, як пытанне аб захаванні Белавежскай пушчы стала не аб'ектам глыбокага прынцыповага разгляду сіламі лепшых эколагаў, а падставай для міністэрскіх чыноўнікаў і міністра прадэманстраваць сваю непамерную лаяльнасць да ўстановы, дзе гаспадараць прэзідэнцкія стаўленікі. Такія прагінанні могуць каштаваць беларусам дарагой спадчыны.**

— Несумненна. У тым ліку спадчыны, якую мы назвалі генафондам этнасу, здароўем нацыі. Цалкам згодны, што прыніжэнне дэмакратычных прынцыпаў – прамы шлях да новых Чарнобыляў, да жорсткай эксплуатацыі прыродных рэсурсаў, да замоўчванняў і вялікай маны. На жаль, не спраўдзіліся мае надзеі на Орхус – Беларусь не падпісала такі Канвенцыю па доступу да экалагічнай інфармацыі і ўдзелу грамадскасці ў ахове навакольнага асяроддзя.

*працяг на старонцы 11*



*Культуралагічная вандроўка па Навагрудчыне. Аляксей Мікуліч разам с навукоўцамі Ганнай Сурмач, Аленай Яскевіч. Мястэчка Любча, 1996.*
*Фота: Яўген Пясецкі*

*Мой аптымізм палягае на спадзяванні, што Беларусь здолее знайсці свой Шлях, памяняе адмоўны знак якасці экалагічных паводзінаў на дадатны.*

**Аляксей Мікуліч.** *63 гады. Родам з-пад Баранавічаў, дзе вёска Жарабковічы. Працуе ў аддзеле антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі Навук. Даследуе генафонд Беларусі. Адзін з аўтараў цыклу работ “Чалавек і яго біякультурная адаптацыя” (1998).*


SUMMARY

***The scientist and antropologist Alexey Mikulich, also a specialist in ecology, answers the questions addressed by the newspaper. ‘Biological diversity influences the stability of humans and the attempts to make democratic decisions help to preserve it’ - says the scientist.***

# Ва ўмовах, што нас акаляюць, мала перайсці на экалагічна чыстыя прадукты — трэба спыніць прэс на прыроду і як мага супрацьстаяць яму

**Добры дзень, "Белавежская пушча"!**

Пішa Вам студэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Я вучуся (заканчваю першы курс) на факультэце біялогіі і экалогіі. Газету сустрэў выпадкова, на пошце. Першыя словы, што кінуліся на вочы, *"З любоўю да ўлоння!"*, зацікавілі мяне, падахвоцілі купіць і прачытаць. Гэта быў трэці нумар за гэты год. Праз колькі дзён я прачытаў і ўсе папярэднія выпускі, добра, што абласная бібліятэка мае падпіску за 1996-98 гады.

Газета, безумоўна, патрэбная. І дзякуй за тое, што вы ёсць, што робіце такую ўдзячную справу.

Што да зместу публікацый, дык за самыя значныя ўважаў бы тыя, у якіх ідзе гаворка пра глабальныя праблемы ( у нацыянальным маштабе), — вынішчэнне апошніх лясоў (нават калі высечкі засаджваюцца маладняком – гэта ўжо не лес, а градка, плантацыя лясной гаспадаркі, месца для смеццезвалак); меліярацыя апошніх балотаў (нават тых нешматлікіх, дзе знаходзяць прытулак рэдкія і знікаючыя віды жывёл і птушак, скажам, вяртлявая чаратянка); незаконная гаспадарчая дзейнасць на запаведных тэрыторыях (асабліва ў старых лясах і пушчах, дзе ёсць высокакаштоўная драўніна); ператварэнне ў аграландшафты куточкаў жывой ацалелай прыроды.

Я мяркую так. У тых умовах, што нас акаляюць, **мала перайсці на экалагічна чыстыя прадукты ці нешта падобнае. Трэба спыніць прэс на прыроду і ўсімі магчымымі сродкамі супрацьстаяць яму**. Таму лічу, што рубрыкі *"Набат"* і *"Ключ Касандры"* павінны гучаць і з кожным выпускам набіраць вагу і моц.

Вельмі прыемна чытаць радкі пра захаваныя прыгожыя мясціны Беларусі. Але не менш карысна, думаю, будзе змяшчаць у газеце канкрэтныя прыклады аховы такіх куткоў. Асмелюся параіць таксама змяшчаць інфармацыю пра чырвонакніжныя віды – чытачы газеты зробяць немалую работу, калі адшукаюць іх у сваім раёне. Тут жа варта параіць, даць прафесійны выклад, як скарыстаць іх наяўнасць, лепш захаваць. На мой погляд, гэта значны патэнцыял, які можа паслужыць на карысць прыродаахове. **Калі па ўсёй Беларусі будуць раскіданы маленькія ахоўныя тэрыторыі, за якімі будуць наглядаць аматары прыроды, лягчэй будзе ахоўваць наваколле ў большых маштабах**.

Канешне, пасля такога ўдару, як ліквідацыя Прыпяцкага запаведніка і запаведна-паляўнічай гаспадаркі "Белавежская пушча" (стварэнне замест іх нацыянальных паркаў), цяжка займацца арганізацыяй новых, няхай сабе і дробных, лакальных, ахоўных тэрыторый. Калі **дзяржава не дэманструе волю да паслядоўных прыродаахоўных дзеянняў**, а дапускае такія бессаромныя дэмаршы, дык і начальнікі на месцах (за выключэннем хіба што сапраўдных грамадзянаў і гаспадароў) не будуць абавязаныя вырашаць такія пытанні.

**Становішча спраў, пры якім запаведнікі і нацыянальныя паркі падуладныя адміністрацыі прэзідэнта, лічу, вымушае чакаць палітычных змен у краіне.** Таму хацелася б часцей і больш чуць пра беларускія палітычныя і грамадскія рухі за ахову прыроды і навакольнага асяроддзя, знаёміцца з вопытам суседніх краін (мяне асабіста надзвычай цікавіць Летува і Польшча).

Я разумею, наколькі важна выхоўваць малодшае пакаленне. Тут ваша газета добра паспявае. Але зноў жа – ці не будзе позна, калі сённяшнія хлопчыкі і дзяўчынкі вырастуць? **Я, першакурснік, хвалююся, што калі скончу універсітэт, справы пахіляцца ў горшы бок. Больш за тое. Калі чаканых зменаў не адбудзецца, чалавек з маёй спецыяльнасцю рызыкуе застацца без працы** – каб не замінаў гаспадарыць рухавым "дзялкам" там, дзе яшчэ штокольвек ацалела.

Мяне хвалюе і лёс вашай газеты, яе фінансавы стан. Калі вельмі цяжка, скажыце пра гэта на сваіх старонках. Мне здаецца, падпісчыкі або самі дапамогуць, або знойдуць каго папрасіць. Галоўнае, каб газета жыла.

Я не паспеў аформіць падпіску на другое паўгоддзе, але зраблю гэта ў жніўні, каб атрымаць вашы наступныя нумары – 5 і 6-ты. Я не толькі падпішуся сам, але буду агітаваць сваіх знаёмых таксама падпісацца на ваша выданне. І апошняе. Хачу замовіць усе нумары газеты – ад першага да апошняга. Для сябе, сваёй уласнай бібліятэкі, для вучобы і працы.

Яшчэ раз – дзякуй за выданне, якое вы робіце.

Да пабачэння,
***Яраслаў Пятроўскі,***
г. Гродна.





* скульптурная кампазіцыя ў Новым замку (Гродна)

Фота: Міхал Анішчанка

***Ад рэдакцыі.*** *Дзякуй за нераўнадушны і змястоўны ліст, Яраслаў. Ваша пазіцыя, разуменне выклікаюць пачуццё павагі і аптымізму. Найбольш істотныя высновы ліста мы на сваё меркаванне пазначылі ў тэксце адметным шрыфтом. І ў гэтым ёсць, так бы мовіць, падвойны сэнс. Па-першае, нам хацелася закцэнтаваць увагу чытача на сапраўды важных момантах Вашай пазіцыі, а падругое (і гэта галоўнае), мы хацелі б, каб Вашы словы былі заўважаны высокачыноўным спадарствам, першнаперш у Міністэрстве прыродных рэсурсаў, абласных прыродаахоўных службах, нарэшце, у Адміністрацыі прэзідэнта, якая ўсё больш прыбірае да рук гэтую сферу нацыянальнай палітыкі (каб мець з яе ласы навар і не больш; гл. старонку "Набат"). Вядома ж, Ваша пазіцыя, Яраслаў, не здольная парушыць спакой і сумленне ўладных прыродаахоўнікаў. Але Вашы высновы і Вашы думкі могуць стаць ім жывым дакорам. Таму што тое, аб чым Вы нам напісалі і ў чым перакананы, — імі абачліва не ўспрымаецца, ігнаруецца, замоўчваецца і папіхаецца. Але голасу такіх, як Вы, яны ўпотай баяцца. Значыць, галасоў* ***павінна*** *быць больш і яны* ***павінны*** *быць пачутыя. Значыць, і газета "Белавежская пушча"* ***павінна*** *выходзіць — каб гэтыя галасы маглі змяняць адзін аднаго, множыцца, адгукацца.*

*Нашы агульныя спадзяванні, Яраслаў, палягаюць сёння на тым, каб стварыць у Беларусі сапраўдны грамадскі зялёны рух. Не эпізадычна-лапікавы, не залежны ад грошай (хто б іх не даваў), а патрыятычны, абсяжны і сталы; сёння гэты рух зеўрае мноствам пустотаў, якія трэба запаўняць — і не назвамі, а зместам, працай, рашучымі дзеяннямі супрацьстаяння.*

*Што залежыць ад нас, хто робіць газету (дарэчы, без штату і памяшкання), мы будзем працаваць свае намаганні і памятаць, што робім святую справу — працуем на будучыню Беларусі. Яшчэ раз дзякуй, Яраслаў, што выказаліся ўголас і далучыліся да нас.*

*са старонкі 10*

**— І як Вы думаеце, чаму?**

— Мяркую, з аднаго боку, высокае кіраўніцтва краіны пабаялася браць на сябе абавязкі, да якіх яшчэ трэба расці і расці. Падругое, гэта ўскосны працяг палітыкі замоўчвання складаных экалагічных праблем і нежаданне дзяржавы ісці на збліжэнне з шырокай грамадскасцю ў галіне аховы навакольнага асяроддзя.

**— Мне здаецца, апарат дзяржаўных структураў не жадае і не здольны ладзіць гэтыя стасункі ў межах еўрапейскай нормы, вось і тармазнулі... Запатрабаванасць алярмізму, як бачым, узрастае. Падстаў для аптымізму ўсё менш. Ці не так, Аляксей Ігнатавіч?**

— Што да мяне, дык мой аптымізм грунтуецца на спадзяванні, што Беларусь усё ж здолее знайсці свой Шлях, прасачыць гісторыю свайго зямнога існавання, памяняць адмоўны знак якасці экалагічных паводзінаў на дадатны.

**— І таму Вы алярміст?**

— *(усміхаецца)* І таму я алярміст.

**— Кажуць, па ўсмешцы можна здагадацца, у якіх мясцінах чалавек нарадзіўся...**

— Я палявік, лес быў ад нас далекавата. Затое цякла рачулка ў зарасніках алешніку. Часам алешнік саступаў ядлаўцу – гэты пейзаж як жывы стаіць перад вачамі, хоць нічога ўжо не ацалела: рачулку асушылі меліяратары, на яе месцы цяпер канава. А ногі дагэтуль адчуваюць летняе цяпло балотнай купіны. Маленькі цуд прыроды! Асабліва помню час, калі зацвітаў чабор і на фіялетавыя курціны зляталіся пчолы.

**— Я б сказаў, мініяцюрны прыклад біялагічнай разнастайнасці. Быў час, дарэчы, людзей, якія адстойвалі балоты, папракалі: "Ды што вы за сваю купіну трымаецеся..." Маўляў, глядзіце шырэй.**

— А трымацца якраз і трэба. І ў прамым, і ў пераносным сэнсе.

З аднаго боку, тая купіна, як адзін з мноства складнікаў біялагічнай рознасці, забяспечвала ўстойлівасць пэўнага навакольнага асяродку. З другога, чалавек, які трымаецца "сваёй купіны", гэта значыць, аселы тып, падтрымліваў свою спадчынную лінію, папуляцыю мясцовасці, калі хочаце, генафонд роду. Купіна, адным словам, досыць важкая катэгорыя ў экалагічных навуках.

***Гутарку вёў Валерый Дранчук***

SUMMARY

***Reader's post is introduced by the letter of future ecologist who is also a student in Grodno University. 'It is not enough to consume ecologically clean food, it is important to stop influencing Nature and refrain from it, - writes the author, -But in order to do this it is vital to have political changes in the country.***

# Дом для нашчадкаў, альбо Сем філасофій узаемадачыненняў чалавека і прыроды

## Запанаванне экалагічнага светапогляду падае чалавецтву надзею на ўстойлівае развіццё і будучыню.

**Яўген Церахаў**

Сонечныя промні распальваюць паверхню зямлі, разбураюць камяні, насылаюць ураганы ды іншыя стыхійныя бедствы.Толькі зялёны лісток ці хваінка здольныя надаць сонечнаму святлу стваральны характар. Расліны змяняюць выгляд зямлі. Змагаючыся за святло, дрэвы цягнуцца ўвышыню, пакуль моцны вецер не пераломіць тонкія ствалы альбо з-за хваробы не пагніюць карані.

Дрэваедныя жывёліны, калі іх шмат, аб'ядаюць лясны падрост, збядняюць такім чынам лес і часта самі гінуць ад голаду і хваробаў. Толькі мядзьведзі здольныя рэгуляваць сваю колькасць. Яны спыняюць сваё разрастанне задоўга да таго, як пачне адчувацца недахоп ежы. Вышэйшая нервовая дзейнасць мядзьведзяў, ільвоў, тыграў, сланоў, кітоў і некаторых іншых відаў жывёл давала захаваць экалагічную ўстойлівасць на Зямлі цягам доўгіх тысячагоддзяў.

З развіццём разумовых здольнасцяў, мовы і прыладаў працы чалавек пачаў уплываць на прыроду ў значна большых памерах, чым любы іншы прадстаўнік жывёльнага свету. Характар ягонага ўплыву розны. Чалавек здатны як вынішчаць прыроду, так і прыкмета паляпшаць яе стан. Накірунак антрапагеннага ўздзеяння вызначаецца найперш тым, як людзі бачаць сваё месца ў прыродзе – ці то ў ролі яе пакаральнікаў, ці то вымушаныя лічыцца з экалагічнымі заканамернасцямі.

У розны час, у розных краінах грамадская думка па-рознаму вызначала цэнтр светабудовы і ў адпаведнасці з гэтым фармаваліся розныя культуры, розныя філасофіі, розныя сістэмы ўзаемадачынення чалавека і прыроды. Ад таго, які з гэтых светапоглядаў завалодваў грамадскай думкай, залежалі не адно асобныя працэсы ў прыродзе, але і лёсы цэлых краін і народаў. Бо практычна любое вынаходніцтва, любую тэхналогію, любую тэхніку ад кола да касмічнай станцыі можна скарыстаць як дзеля знішчэння прыроды, так і на карысць вырашэння экалагічных праблем. Вылучым сем галоўных светапоглядаў.

ПРЫРОДАЦЭНТРЫЗМ ёсць несумненна самым старажытным з чалавечых светапоглядаў. Сутнасць ягонная ў тым, што адмаўляецца існаванне якіх-небудзь сацыяльных нормаў паводзін, чалавек цалкам падпарадкуецца прыродным заканамернасцям. Такі светапогляд дазваляе пакідаць нябожчыкаў на спажыву драпежным птушкам альбо адвозіць старых у лес на з'ед ваўкам, ці наогул займацца людаедствам. Каторыя з гэтых традыцый заставаліся ў асобных месцах Еўропы да мінулага стагоддзя, а дзе-нідзе на Зямлі існуюць і сёння. Такім чынам падтрымлівалася раўнавага паміж асобнымі плямёнамі і блізкім навакольным асяроддзем, што не магло спрыяць назапашванню сацыяльнага вопыту. Часцей за ўсё плямёны з прыродацэнтрысцкім менталітэтам зніклі пад уціскам суседзяў з больш дасканалай сацыяльнай структурай.

ЭТНАЦЭНТРЫЗМ фармаваўся і развіваўся шмат тысячагоддзяў. Ягоная сутнасць палягае на тым, што людзі прызнаюць раўназначнасць сацыяльных і прыродных законаў, лічацца з неабходнасцю адмысловых правілаў, якія рэгулююць узаемаадносіны чалавека і навакольнага асяроддзя. Асноўнае з правілаў — браць у прыроды адзіна тое, што неабходна для падтрымання жыцця, і ў той колькасці, якую прырода здольная аднавіць. Вынік – захаванне раўнавагі на этнічных тэрыторыях да нашых дзён. Некаторыя народы, напрыклад, нарвежцы, здолелі спалучыць старажытныя звычаі з сучаснымі дасягненнямі навукі і тэхнікі, дамагчыся пры гэтым высокай якасці жыцця, захаваўшы ў добрым стане прыроду. Захаванне і выкарыстанне этнічнай культуры самых розных народаў свету ёсць абавязковай умовай, каб пазбегнуць глабальнай экалагічнай катастрофы.

ІМПЕРЫЯЛІЗМ – гранічная форма памкнення адных людзей панаваць над прыродай ды іншымі людзьмі. Ідэалогія імперыялізма палягае на тым, што найвышэйшай каштоўнасцю на зямлі ёсць механізм улады, а людзі і прырода – толькі сродак для яго ажыццяўлення. Такі светапогляд і стаўся галоўнай прычынай глабальнага экалагічнага крызісу. У захопніцкіх войнах ад біблейскіх часоў да канца XX стагоддзя не толькі забітыя дзесяткі мільёнаў людзей, але спустошаны землі, якія маглі б карміць цэлыя народы. Больш за тое: ў імперыялістычных краінах прырода нішчыцца проста так, без усялякай карысці, адно дзеля таго, каб чарговы імперскі лідэр змог паказаць сваю магутнасць.Чаго варты, напрыклад, праект перакіду вады з паўночных рэк на поўдзень? Толькі асуджэнне імперыялістычнай ідэалогіі, поўны адыход ад яе дасць чалавецтву шанц на выжыванне.

*Яўген Церахаў. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Вілейцы. Закончыў Белдзяржуніверсітэт. Спецыялізацыя біялагічная фізіка. Працаваў у Акадэміі навук, зараз намеснік дырэктара Лошыцкага парку, што ў Мінску. Педагог-эколаг, аўтар серыі дзіцячых казак на экалагічную тэму.*

ТЭХНАКРАТЫЗМ грунтуецца на ідэі, што за вышэйшую мэту грамадства мае тэхнічны прагрэс.Тое, што ў ахвяру пры гэтым ставіцца прырода і самі людзі, тэхнакратаў мала хвалюе. Галоўнае, каб вырашалася тая ці іншая тэхнічная задача, якая почасту мала што мяняе ў жыцці. Найвышэйшае сваё развіццё такі светапогляд атрымаў у першай палове XX стагоддзя ў ЗША і Еўропе. Варта прыгадаць гігантаманію, гонку за празмернымі аб'ёмамі, небывалымі хуткасцямі. Праз пэўны час, праўда, высвятляецца, што гонка тая была нікому не патрэбная. Звышгукавыя самалёты так і не пачынаюць перавозіць пасажыраў, а задуманых свінаградаў не "хапае" і на палавіну іх праектнай магутнасці. Часам тэхнакратычныя гульні сканчаюцца жудаснымі катастрофамі, такімі як пагібель Тытаніка ці выбух на ЧАЭС. Тэхнакратычныя памкненні вядуць да страты дзесяткаў тысяч людзей, уходвання соцень мільярдаў даляраў і буйнапамернага знішчэння прыроды.І ўсё ж гэтыя страты, калі параўнаць, нашмат меншыя за тыя, што адбываюцца ў выніку панавання імперскай ідэалогіі.

ЭГАІСТЫЧНЫ светапогляд мае прыроду за сродак задавальнення сучасных патрэбаў, адкідваючы тэзіс аб самакаштоўнасці раслін і жывёлаў. Эгаізм як сацыяльная з'ява пачаў фармавацца, відаць, тады, калі грамадства пачало паступова губляць татальны кантроль за кожным чалавекам, а ўзровень вытворчасці вызваляў хоць бы частку людзей ад бясконцых турботаў аб хлебе надзённым. У розны час у асобных краінах эгацэнтрызм рабіўся дамінуючым светапоглядам, і ўся эканоміка пачынала працаваць на забеспячэнне дабрабыту больш ці менш шырокай часткі грамадства. Прырода пры гэтым цярпела значна менш, чым у імперыялістычных і тэхнакратычных краінах. Асобныя тэрыторыі нават прыводзіліся ва ўзорны стан, задавальняючы пат-

## ПУЖОК

*Шаноўныя таты і мамы, бабулі і дзядулі, хлопчыкі і дзяўчынкі! Рэдакцыя газеты вітае Вас новай рубрыкай для маленькіх сяброў прыроды і першым -- сонечным -- абразком. Мы палічылі, што гэта вельмі сімвалічна - пачаць з сонейка, якое саграе ўсю нашу планету і кожнага з нас. У добры шлях разам!*

### Алесіна сонейка



Фота: Неруш-прэс

Толькі-толькі бралася на раніцу, а дзяўчынка Алеся, якая прыехала да бабулі з горада, ужо не спала. З вечара яны з мамай дамовіліся, што сустрэнуць сонейка, калі яно будзе сама-сама ўзыходзіць. Алеся паспела заплесціся ў коскі і пакрасавацца перад люстэркам. Сёння яна запляла свае любімыя ружовыя банты.

І вось па расе яны з мамай ідуць на дарогу пад вялікі белы камень. З яго, калі падняцца, будзе лепш відаць.

Шэры небасхіл яшчэ ледзь-ледзь афарбаваны ў ружовы колер. Цішыня. Ані ветрыку, ані шолаху. Ужо не ноч і яшчэ не дзень. Такую раніцу дзяўчынка ніколі ў жыцці не бачыла. Уся, здаецца, з шэрага серабрыстага колеру. Сямтам на павуцінках дрыжыць раса. На асінцы, чувáць, залапатаў лісток. А які краявід перад вачамі! У нізіне, дзе рэчка, сталь туман. Абрысы дрэў, кустоў, узгоркаў быццам падведзеныя шэрым алоўкам. Пасачак лесу нагадвае блакітны карабель, які вось-вось праплыве і знікне ў смузе. Алеся была на моры і бачыла сапраўдныя караблі, што праплывалі ў імглістай далечыні.

*"Якое вялікае наваколле!"* – сказала Алеся. – *Вачэй не хапае"*.

*"Глядзі, сонейка!"* – адказала мама, паказваючы на ружовы ўсход.

Алеся ўсміхнулася. Там, дзе ружаваў небасхіл, паказалася сонца. Спачатку маленькі кволы акрайчык, а затым пяшчотны ружовы мячык. Сонца! сонца! Алеся ледзьве ўстаяла на камені. Ёй хацелася ўзяць мячык у рукі і падкінуць угору, пад самы купал неабдымнага неба.

*Няхай жыве і пасецца беларуская птушка бусел!*

рэбы заможных людзей; на астатняй частцы краіны допускалася спажыванне багаццяў у памерах куды большых, чым прырода здольная была аднавіць. Таму краіны, дэкларуючы ў якасці сваёй мэты няспынны рост спажывання, няўхільна разбуралі навакольныя асяродкі.

АНТРАПАЦЭНТРЫСЦКІ падыход добра выказаны ў словах: " І стварыў Бог чалавека па свайму падабенству". Пастулат лёг у падмурак ці не ўсіх асноўных рэлігій свету і знайшоў сваё развіццё ў Сусветнай Дэкларацыі правоў чалавека. Выразна прасочваецца адказнасць чалавека за прыроду, за ягонае права на здаровы навакольны асяродак. Аднак пры гэтым прырода адсоўваецца на другі план; існаванне экалагічных праблем людзі пачынаюць браць пад увагу толькі тады, калі тыя выяўляюць сур`ёзную пагрозу іхняму дабрабыту. У краінах, дзе пануе антрапацэнтрысцкі светапогляд, магчымае як устойлівае экалагічнае становішча, так і яго паступовае паляпшэнне ці пагаршэнне. Каб гарантавалася паляпшэнне экалагічнага становішча, грамадства павінна надаваць стану прыроды не менш увагі, чым абароне правоў чалавека.

ЭКАЦЭНТРЫСЦКАЯ філасофія зачалася ў сярэдзіне XIX стагоддзя, а ў пачатку XX стагоддзя пачала набываць усё больш прыхільнікаў. Яе асноўныя адозвы: *"Мысліць глабальна – дзейнічаць лакальна"*, *"Ахова прыроды не мае межаў"*, *"Зямля —наш дом"*. Светапогляд грунтуецца на спалучэнні антрапацэнтрысцкага падыходу, этнічных культур і дасягненняў сучаснай навукі. Сутнасць экалагічнай філасофіі ў тым, што Прырода ёсць самастойнай каштоўнасцю і жыве паводле сваіх законаў, але існуюць і законы чалавечага дому, якія не заўсёды супадаюць з прыроднымі.

Апроч гэтага, існуюць правілы ўзаемадзеяння чалавека і прыроды, згодна з якімі людзі павінны выкарыстоўваць натуральныя багацці ў колькасці не большай, чым прырода здольная аднавіць, прымаць рашэнні, якія б дазволілі кампенсаваць не адно сучасны антрапагенны ўціск, але таксама страты, што былі ўчыненыя раней.

Паводле экалагічнай філасофіі, чалавек клапоціцца пра свой родны дом і кут, рупіцца як мага перадаць яго дзецям лепшым, чым атрымаў ад бацькоў. А родны кут ёсць часткай вёскі, вуліцы ці квартала, якім таксама патрэбны клопат; вуліца ў сваю чаргу — частка горада ці раёна, якія лучацца ў адну краіну; наша краіна – гэта частка агульнаеўрапейскага дому, і ў рэшце рэшт Зямля ёсць домам для ўсіх, хто на ёй жыве.

Чалавецтва цягам сваёй гісторыі ведала прыклады панавання ў асобных краінах кожнай з гэтых філасофій, і адпаведна – прыклады росквіту гэтых краін альбо іх заняпаду. Але ў большасці выпадкаў там прысутнічалі некалькі светапоглядаў, носьбіты якіх маглі і мірна суіснаваць, і весці зацятую барацьбу. Сёння экалагічнае становішча ў свеце абвастрылася да таго, што марнатраўства рэсурсаў недапушчальнае і толькі запанаванне экалагічнага светапогляду падае чалавецтву надзею на паратунак і ўстойлівае развіццё.


SUMMARY

***In the papers 'Seven philosophies of men and Nature interaction' written by a teacher who is also concerned with the problems of ecology, one can find ideas about word outlook and its trends, among which the philosophy of ecocentrism is considered to be the most reliable one.'***






# *Механізм прыроды,*

*з сябе ўвесь ёмісты й дасканалы, разам з тым яшчэ просты. Чалавек, патварай яму! Патварай гэтай дзейнасці дасканалай прыроды, якая з каліва гіганцкага дрэва спачатку выганяе непрыкметны парастак, а пасля тым жа шляхам непрыкметных, але паступова й цярпліва — гадзіна за гадзінай, суткі за суткамі — назапашаных прырашчэнняў спачатку стварае аснову ствала, затым аснову галоўных, затым дробных галінаў — і так да навершаўатожылкаў, на якіх трымаецца новая і новая лістота.*

*Назірай, чалавек, за тым, як дасканалая прырода клапоціцца пра кожную асобную наноў створаную частку, як яна яе атуляе і як кожная новая частка прымацоўваецца ёю да старых, правераных на трываласць частак. Назірай за тым, як распускаюцца яе дзівосныя кветкі з глыбенькага нутра бутонаў. Зважай, як хутка развітваецца яна з красой так шчодра ўквечанай сваёй маладосці! Слабы яшчэ, але ва ўсёй сваёй сутнасці, здавалася б, здзейснены плод кожны дзень дадае штосьці значнае да таго, што ўжо мае ў сабе, і гэтак месяц за месяцам, паступова расце, трымаючыся галіны-карміцелькі, пакуль не адарвецца і не ўпадзе з дрэва ўжо зусім спелы і споўнены ва ўсіх сваіх частках.*

*Паглядзі, як маці-прырода, пакуль распускаецца першы ўзнята-растулены імклівы атожылак, — як яна вымагае развінацца й зародак кораня і як глыбока ва ўлонні зямлі хавае самую дарагую часціну дрэва! Прыгледзься, як яна ператварае ў корань нерухомы камель; як з самага сэрца камяля выганяе галіны, а з глыбіні галоўных галінаў-сукоў пасылае на свет бакавыя атожылкі. І пры гэтым яна дае самым слабым, самым аддаленым часткам сілу, для іх дастатковую, і ніводнай, ні адзінай часцы яна ніколькі нічога не перадае, каб тое было залішнім, непатрэбным ці нерацыянальным.*

*...Уся прырода поўная чароўных і ўзвышаных формаў, але Еўропа нічога не зрабіла ні дзеля таго, каб развіць разуменне гэтых формаў, ні дзеля таго, каб прывесці іх у сістэму, якую б можна было з карысцю ўспрымаць. Дарэмна ўзыходзіць для нас сонца, дарэмна сядае. Дарэмна расчыняюць лугі і палі, лясы і даліны свае незлічоныя багацці — для нас яны нішто! І тут я нічым не маю дапамагчы. Але гэты пралом мусіць быць зароблены - такое здарыцца тады, калі народная адукацыя здолее ўзвысіцца над сваімі цяперашнімі нялюдскімі ўстаноўкамі і выйдзе на шлях, які б вылучаў сутнасць нашай прыроды.*

*1800*

***Іаган Генрых Песталоцці,***
*швейцарскі педагог-дэмакрат*
*(1746-1827)*

# НАБАТ

## Славутыя Браслаўскія азёры перажылі эпоху свінакомплексаў, а сённяшні Нацыянальны парк "Браслаўскія азёры" -- сведка гвалтоўных землярыйных работ на ахоўнай тэрыторыі.


Фота: Аляксей Мацюш

## Кволаму немаўляці — экалагічнаму турызму на Беларусі — пагражаюць гандляры і мянялы, якія заўзята бяруцца спавіваць нованароджанае дзіця

Браслаўскія "зялёныя" паінфармавалі недзяржаўную прэсу пра **супрацьзаконныя дзеянні на тэрыторыі Нацыянальнага парка**, якія зыначваюць гістарычна сфармаваныя краявіды ледавіковага паходжання ў раёне азёраў Снуды і Струста.

"Чарговы ледавік" насунуўся год таму. Праз маляўнічыя пагоркі пачалі праразаць роўную дарогу. Будоўлю ў народзе адразу ахрасцілі "тунэлем Ціцянкова" (Нацыянальныя паркі падначалены ведамству, якое ачольвае Іван Ціцянкоў).

Як вядома, на тэрыторыі нацыянальнага парка Закон забараняе ўсялякую дзейнасць, што парушае прыродныя комплексы або зніжае іх прыродную ды культурную каштоўнасць і маляўнічасць.

Чыноўнікі з апарата Прэзідэнта , ні з кім не раячыся, прынялі гэтае рашэнне келейна, бо ўсё рабілася за вялікія грошы і пад сябе. Прынамсі, турыстам, якія пехам адольвалі дарогу Чэрнішкі-Кезікі, каб патрапіць на гару Маяк, сама гэтая дарога была каштоўнасцю: то падымалася ўгору, то падала ўніз. Такое мала дзе знойдзеш!

А знойдзеш – толькі парадуешся ды памолішся за свой край, сваю Беларусь.

Тыя, што наслалі сюды магутнай тэхнікі, таксама радаваліся – за перспектывы тунэлебудаўніцтва ў беларускіх нерушах. Успамінаецца праклятая меліярацыя...

Развіваючы турыстычны бізнес на падведамных ахоўных тэрыторыях, гаспадарча-адміністрацыйны апарат А.Лукашэнкі спяшаецца як мага завабіць багатых кліентаў, скіраваць сюды плацежаздольны паток турыстаў. Словам, узяць па максімуму. Знаходзяцца і мясцовыя трубадуры ці заезныя журналісты, якія часам эйфарычна альбо свядома, без належнага такту і асцярогі рэкламуюць "цуды" прыроды, **не зважаючы на галоўнае – ахову гэтых каштоўнасцяў, выхаванне ў людзей прыродалюбнага водгуку, пашанотнага стаўлення да прыродна-культурнай спадчыны.**

Вось што пасведчыла рэдакцыі навуковы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук археалогіі **Ала Кваткоўская.**

*"Чатыры гады, як я выяўляю і даследую археалагічныя ды гістарычныя помнікі на тэрыторыі нацыянальнага парка "Белавежская пушча". Мая праца ніколі не была таямніцай для мясцовых жыхароў. Каб людзі мелі інфармацыю з першых рук, я не аднойчы рапавядала пра выяўленыя помнікі, пра тое, дзеля чаго я гэта раблю. Прычым, заўсёды падкрэслівала: гэта наша гістарычная спадчына, да якой усе мы ставімся (не павінны, а* ***ўжо*** *ставімся) з глыбокай пашанай і якую павінны зберагаць. Людзі разумелі мяне".*

Сёлета, як і раней, Ала Кваткоўская зноў прыехала ў Нацыянальны парк. Напачатку наведала бібліятэку і была тут не першаю, хто зацікавіўся артыкулам у адной з дзяржаўных газет, які непасрэдна закранаў яе прафесійную сферу: аўтар, кандыдат біялагічных навук пісала пра археалагічныя ды гістарычныя помнікі Белавежскай пушчы. Акцэнтаваліся пераважна "энергетычныя" і "лекавыя" ўласцівасці дрэў і камянёў. Аднак не гэта насцярожыла А.Кваткоўскую. Паслухаем яе далей:

*"Неўзабаве да мяне дайшлі сумныя весткі: з дуба, узрост якога налічвае не адну сотню гадоў, хтосьці спусціў кару. Каля шанаванага каменя невядома каму і навошта захацелася выкапаць вялікую яму".*

Праява такой нялюдскасці і вычварнасці, лічыць Ала, была ў пэўнай меры справакавана згаданай газетнай публікацыяй, у якой акцэнты былі занадта спрошчаныя легкадумным выкладам, разлічаным на рэкламны эфект і ў рэшце рэшт на інстынкты. Розніца вялікая, калі гаворка ідзе пра запаведнік, ахоўную тэрыторыю, а не які-небудзь шоп.

*"Я разумею людзей,* – кажа Ала. – *Многіх жыццё кідае шукаць апошняга паратунку. Вось і слухаюць розных дарадцаў, вераць у "чароўную" палачку". Некаторыя, як бачым, чыняць ганебнае здзірства, заносячы сабе ў вялікі грэх і правіну. Тут дарэчы нагадаць, у якіх месцах надараецца бясплатны сыр... Інакш кажучы, за ўсё ў жыцці трэба плаціць, але абавязкова --часцінкай сэрца, душы."*

Безумоўна, даводзіць Ала Кваткоўская, сёння патрэбна рэклама гістарычных мясцінаў нашай прыродна-культурнай спадчыны. Але перш чым за гэта брацца, трэба авалодаць дастатковай навуковай інфармацыяй, ведаць псіхалогію аўдыторыі. Вядома ж , у такіх выпадках трэба кіравацца правілам: **"Не нарабі шкоды!"** Гэта значыць, падкрэслівае А.Кваткоўская, засцеражы словам, падкажы людзям, як належыць паводзіць сябе ў такіх месцах, выкладзі **звесткі пра рытуал.**

Адным словам, так ці інакш гаворка ідзе аб прыстойнасці і годнасці, з якой трэба рабіць справу. Так ці і накш -- паўстае пытанне: хто гаспадарыць у Пушчы?.. Новенькага тут нічога. Як сказаў мой знаёмы, сонейка заходзіць, і над Пушчай згушчаюцца прыцемкі

***Уладзімір Пугач***

*Ад рэдакцыі. У наступным нумары археолаг Ала Кваткоўская мае намер падрабязна распавесці пра вынікі сваіх даследванняў у Белавежскай Пушчы*

# КАНТРАПУНКТ

## Узвіжанскі трыпціх








Фота: Нерушы-прэс

***Крыжы-абярэгі...***

*На божыя святы*
*З малітвай жанчыны*
*Ручнік ускладалі —*
*На крыж пуцявінны*
*І білі паклоны...*

***Крыжы-абярэгі...***

*Ля іх бласлаўлялі*
*Дзяцей у дарогу,*
*Страчалі гасцей,*
*І маліліся богу...*
*Да самага скону*
*Былі яны побач...*

***Крыжы-абярэгі...***

Міхась Башлакоў

## SUMMARY

***President's administration which is also responsible for National Parks in Belarus is sometimes very careless about the law issued about the particularly preserved territories. To be precise it does some work which change and disfigure the natural landscape.***

# БЕЛАЯ ВЕЖА BELAYA VEZHA

Асяродкі

## У Клічаве ствараецца музей лесу

*"З усіх сабораў ёсць сабор..."* – напісаў паэт, маючы на ўвазе лес. І хоць у беларускіх лясах шмат гвалту, а ў адносінах людзей і дзяржавы да "зялёнага золата" пераважае карысьлівасць і нават прагнасць, выказванне паэта падаецца праўдзівым і шчырым: лес быў і застаецца нашым нацыянальным духоўным скарбам.

Можна толькі парадавацца добрай ініцыятыве клічаўскіх лесалюбаў, якія пачалі ствараць у райцэнтры музей лесу. У ім плануецца размясціць 9 залаў, сярод якіх будзе зала археалогіі. Такім чынам, яшчэ адным асяродкам краязнаўства і экалагічнага выхавання на Беларусі стане больш. Дарэчы, Клічаўскі раён самы лясны ў Магілёўскай вобласці — 60 працэнтаў тэрыторыі занята лесам. *"Каб зберагчы гэтае багацце, варта шмат чаго зрабіць. У тым ліку і добры музей,"* –лічаць мясцовыя патрыёты. *Уласная інфармацыя.*



*Фота: Аляксандр Тутоўскі*

* *лета з палаткай; адна з самых прыгожых стаянак на беразе ракі Дрыса (Расонскі раён)*

Супрацоўніцтва

## Дняпроўская рэзалюцыя вызначае праграму дзеянняў

Украінская экалагічная асацыяцыя "Зелений світ" сумесна з інстытутам экалогіі Нацыянальнага экацэнтра Украіны правялі ў Астрогу (Ровенская вобл.) двухдзённы семінар з удзелам беларускіх "зялёных". Гаворка ішла пра стан рэк Дняпроўскага і Прыпяцкага басейнаў і дзеянні грамадскіх арганізацый суседніх краін па іх ахове. "Галоўным чынам абмяркоўваліся перспектывы беларуска-украінскага супрацоўніцтв, -- пасведчыў адзін з удзельнікаў семінара Міхал Козел, які прадстаўляў у Астрогу Беларускае аддзяленне Цэнтра дзікай прыроды. -- Сустрэча атрымалася надзвычай цікавай і канструктыўнай. Экалагісты пазнаёміліся і тут жа прыступілі да справы: складзена каля 10 сумесных экапраектаў. Звернута ўвага на цесныя стасункі "зялёных" з органамі мясцовай улады, якія зацікаўлены ў вырашэнні праблемы малых рэк. Была абмеркавана магчымасць правядзення другога семінара па гэтай тэматыцы на беларускім баку." *Уласная інфармацыя.*

Канвенцыі

## Беларусь не падпісала Орхускую Канвенцыю

У дацкім горадзе Орхусе, дзе прайшла канферэнцыя міністраў Еўропы, ЗША і Канады, Беларусь не падпісала Канвенцыю па доступу грамадскасці да інфармацыі і прыняцця рашэнняў. Больш за тое, наша дзяржава, выпраўляючы дэлегацыю на міністэрскую Канферэнцыю ў Орхус, не ўключыла ў яе склад ніводнага прадстаўніка ад недзяржаўных экалагічных арганізацый, што выглядала на агульным фоне рэзкім выключэннем з правілаў.

Да гонару "трэцяга сектара", ён, аднак, здолеў адправіць у Орхус сваю "асобную" дэлегацыю, якая, вярнуўшыся дамоў ініцыявала круглы стол па выніках канферэнцыі.

Канчатковы тэрмін падпісання Орхускай Канвенцыі 21 снежня 1998. У рэдакцыі ёсць звесткі, што Беларусь рыхтуецца паставіць пад Канвенцыяй свой подпіс. Магчыма, да гэтага часу адбудзецца меркаваная Нацыянальная Канферэнцыя экалагічных грамадскіх арганізацый, якая здолее ўнесці актывізуючыя карэктывы ў зялёны рух Беларусі. *Уласная інфармацыя.*

Стасункі

## Газета "Белавежская пушча" трапіла ў лік "ненадзейных"

Навуковая бібліятэка Нацыянальнага парка "Белавежская пушча" не падпісалася на прыродалюбную асветна-публіцыстычную газету "Белавежская пушча" на другое паўгоддзе. Генеральны дырэктар Васіль Патапавіч Жукаў выкрэсліў яе чорным алоўкам са спісу выданняў, якія былі прапанаваныя да падпіскі падведамнай яму чытальнай установай. *"Не трэба здзіўляцца,* — патлумачыў адзін з наведнікаў бібліятэкі, які прасіў не называць яго прозвішча. – *Вы трапілі ў спіс крамольных выданняў. Не жадаеце дудзець у ражок хваласпеваў Пушчы, а б'яце ў набат, бачыце недахопы. Дык што ж хацець! Ваша пазіцыя пачала муляць і тут, у парку, і там, вышэй. Але газету ведаюць і так. Хто захоча, падпішацца сам. Усе разумеюць, што нецярпімасць да выдання, якое замаўляе незалежную пазіцыю, так ці інакш сведчыць пра адпаведны ўзровень культуры і арыентацыю на сённяшні дыктатарскі рэжым у краіне".*

Увогуле, пра бібліятэку Нацыянальнага парка не скажаш дрэнна. Тут багата цікавай, патрэбнай літаратуры. Шмат разнастайнай перыёдыкі, у тым ліку іншамоўнай, асабліва польскай. Заходнія суседзі, праўда, якія часта прыязджаюць на наш бок Пушчы, напэўна, дужа здзівяцца, што газеце з назвай самога нацыянальнага парка тут няма месца. Але гэта не самае страшнае і не самае горшае, што можа здзіўляць у цяперашняй Беларусі суседзяў-палякаў ці іншых суседзяў. Дарэчы, сельская бібліятэка вёскі Камянюкі (што ў сотнях метраў ад сядзібы Нацыянальнага парка) падпіску на газету "Белавежская пушча" прадоўжыла. *Уласная інфармацыя.*

Альтэрнатыва

## Каноплі заменіць дрэва?

Група дробных фермераў са штата Кентукі дамагаецца дазволу на вырошчванне прамысловай каноплі. Цяпер гэтыя фермеры вырошчваюць пераважна тытунь і зазнаюць нямала пакутаў з-за мноства абмежаванняў. Яны бачаць каноплю як альтэрнатыўную культуру, з якой выраблююць 25 тысяч розных прадуктаў, у тым ліку адзенне, паперу, гаручае, ежу, будаўнічыя матэрыялы. Трывалая перад рознымі немачамі, каноплі здольная замяніць дрэва, нафту, бавоўну ды шмат якія іншыя незваротныя рэсурсы. Адзінае, чаго пабойваюцца фермеры, калі гавораць пра свой выбар, — быць абвінавачанымі ў вырошчванні марыхуаны. *Крыніца: служба экалагічных навін ЗША.*

Апакаліпсіс

## Радыёнукліды на "салодкім" патоку

Па-свойму "ацанілі" гасціннасць беларускіх калег з Нацыянальнай Акадэміі польскія навукоўцы. Вярнуўшыся дадому, яны праверылі на радыяцыю шакаладныя цукеркі аднаой з папулярных "салодкіх" фабрык Беларусі. Прэзент ад сяброў аказаўся не надта салодкім, а з небяспечным перавышэннем радыенуклідаў. Польскія вучоныя тактоўна перасцераглі беларускіх навукоўцаў і падкрэслілі, што інцыдэнт выходзіць за рамкі прыватна бытавога здарэння і мае непасрэднае дачыненне да праблемы экалагічна чыстай прадукцыі на Беларусі. *Уласная інфармацыя.*

Арнітафауна

## Амялушка, чыжык, каршачок ды шмат іншых

Рыхтуецца да выдання вызначальнік "Птушкі Еўропы". Гэта будзе нечувана шматлікая чарада: ажно 600 назоваў! Ці не ўпершыню зроблена спроба даць кожнай птушцы найбольш аўтэнтычную беларускую назву.

Стваральнікі выдання карысталіся рознымі крыніцамі, але найперш "Расейска-крыўскім (беларускім слоўнікам) Вацлава Ластоўскага (1924), які мае найбольш поўны "птушыны" дадатак. *"Рыхтуючы вызначальнік, мы кіраваліся тым, каб як мага больш людзей ведалі, распазнавалі і ахоўвалі птушак",* — сказаў адзін з укладальнікаў выдання вядомы арнітолаг Міхаіл Нікіфараў. *Уласная інфармацыя.*

Конкурс

## Знайдзіце, прачытайце — і намалюйце!

Газета "Белавежская пушча" разам з Цэнтралізаванай сістэмай дзіцячых бібліятэк Мінска ладзяць прыродалюбны конкурс на лепшы малюнак-ілюстрацыю да твораў беларускай і сусветнай літаратуры "Зялёныя старонкі".

Бадай кожная кніга, даводзіцца ва ўмовах конкурсу, мае свае зялёныя старонкі, дзе апісваецца прырода або чалавек, які лучыцца з ёю... Ёсць кнігі, у якіх усе старонкі прасякнуты зялёным колерам – праменяць любоў, малююць непаўторны вобраз Радзімы, вучаць берагчы і ахоўваць прыродныя скарбы. "Знайдзіце іх, прычытайце — і намалюйце самі!" – звярнулся арганізатары да юных чатасоў і мастакоў. Вынікі конкурсу будуць падведзены ў крававіку да Дня зямлі. Журы назаве дзесяць пераможцаў, але заахвочаных будзе значна больш. *Уласная інфармацыя.*

SUMMARY

***The Belaya Vezha ("White Tower") section gives various information on ecological and other topics.***







* *уезная брама, 30-я гады. На даху аднаго з будынкаў сялібуе бусел;*

* *адна са шматлікіх паштовак, што прапаноўваліся турыстам: відок са сцежкай*

* *зімовы эцюд*

# Белавежскі паляўнічы палац

**Мікалай Черкас**

*Усяго толькі рысачка ў гісторы Пушчы: жнівень 1894 года, на паляванне ў Белавежу прыязджае Аляксандр III. Асенняя рэзідэнцыя чакала яго ва ўсім бляску, але радасць наваселля азмрочвалася хваробай цара, а тая восень стала для яго апошняю.*

Сёння можна адно шкадаваць, што нам ужо ніяк не выпадае любавацца такім цудоўным творам архітэктуры, як царскі паляўнічы палац у Белавежы, — яго даўно няма. Ён стаяў у цудоўнай мясціне; малявідныя пейзажы адкрываліся, бадай, з усіх вокнаў — асабліва на поўдзень, на стромы адхон, што збягаў у даліну ракі Нараўкі... На далёкія кіламетры яго абаймаў старажытны лес — гэта быў цэнтр Пушчы, і двухвежавы палац з мноствам будынкаў, малых і вялікіх, нагадваў сапраўднае гарадское паселішча, на якое з лішкам хапала ўсяляких выгодаў, каб выглядаць кутком цывілізацыі ў асяродку першабытнага лесу ды здзіўляць "заезнае вока" процьмай пакояў (інвентарная кніга вопісу "рухомай маёмасці" заканчваецца пакоем 118 — "склеп для віна"). На агляд усяе сядзібы, тым больш самога Палаца, патрабаваўся адмысловы дазвол; толькі па ім дзяжурная варта паказвала турыстам велічнае збудаванне.

Двухпавярховы будынак быў зроблены з мясцовай цэглы, але на прывазным цэменце (і цэгла, і цэмент паказалі сваю выключную трываласць пад час далейшых трагічных перыпетэяў). Мясцовыя дзесяць пародаў дрэва — менавіта столькі, колькі было іх у Пушчы — выкарыстоўваліся як для аздаблення пакояў (плафоны, пано, інкрустацыі і інш.), так і мэблі. Усе металічныя дэталі былі выкананыя ў спалучэнні чорнага і паліраванага жалеза і чырвонай медзі. Так, мяркуецца, маўляў, было і задумана: маючы мастацкі густ, можна з малакаштоўнага матэрыялу зрабіць прыгожую выкшталцоную рэч. Цікава, што побач з разьбой па дрэву знайшло месца і шырока ўжытае выпальванне.



* *пакой палаца: бляск і раскоша;*

* *вежа без даху, але яшчэ з гербам (50-я гады)*

*Фота: са збору аўтара і А.Кечыньскага (Польшча)*





Вядома, у пакоях было шмат карцін жывапісу, розных магчымых размалёвак, трафейных кампазіцый з галовамі ды рагамі, іконаў. Сярод палотнаў, намаляваных алейнымі фарбамі, вылучаліся працы "*Відок палаца*", "*Манюшка*", "*Сувораў, які прымае ключы ад Варшавы*" і інш.

У 1913 годзе адміністрацыя Белавежскай пушчы прыступіла да зборáў музея — перш-наперш гэта былі калекцыі флоры і фауны, гістарычныя знаходкі, зброя, начынне браканьераў, гравюры і фатаграфіі на тэму шматаблічнага жыцця Пушчы.

Праіснаваў палац надзіва нядоўга — усяго 64 гады. Для такой велічы і моцы гэта незаслужана мала; гісторыя наклала на ягоны лёс свой, трагічны адбітак. Падчас першай сусветнай вайны палац тры гады быў пад немцамі, у сакавіку 1919 гаспадарамі тут сталі палякі, затым Саветы (усяго на два месяцы) і, нарэшце, у 1920 годзе сюды зноў прыйшлі палякі, гэты раз надоўга – да верасня 1939 года, пакуль Белавежу не заняла Чырвоная Армія. У снежні Белавежская пушча аб"яўляецца запаведнікам, у палацы плануецца стварыць навукова-даследчы цэнтр. Але планы перакрэсліла вайна, Пушча ператвараецца ў паляўнічы абшар Герынга.

Падчас ваенных дзеянняў з 16 па 17 ліпеня 1944 года палац загарэўся. Прапалі шматлікія зборы, моцна пацярпела бібліятэка. Мясцовыя жыхары, паводле сведчанняў, замест таго, каб тушыць пажар, заўзята расцягвалі каштоўнасці.

Пасля вайны заходняя частка Пушчы разам з вёскай Белавежа засталася на тэрыторыі Польшчы. Пытанне — што рабіць з палацам? — стала прадметам працяглых спрэчак. У1958 годзе было вырашана: падарваць. Але далося гэта нялёгка: дынаміт "не браў" моцныя сцены і ў рэшце рэшт разбурэнне, як мяркуюць, абышлося даражэй за кошт магчымага ўзнаўлення будынка.

SUMMARY

***It is a pity that the beautiful architectural work - Tsar's Hunting Palace in Belavezhskay Puscha - could not be preserved. During the war it was destroyed and then blown up. The description of the property and numerous photographs are the only things left.***

БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*Заснавальнік і рэдактар Валерый Дранчук*

* прыродалюбная асветна-публіцыстычная беларуская газета
* год выдання чацвёрты, 1998
* пасведчанне аб рэгістрацыі №125 ад 27.06.96
* наклад 3200 асобнікаў, кошт дамоўны
* пры передруку спасылка на газету абавязковая

Афармленне, макет: *Валерый Дранчук*
Карэктура, вёрстка: *Уладзя Ляская*

Адрас для допісаў: 220088 Мінск, Іванаўская, 38-16. Тэл.236-50-76, факс 220-23-53

Аўтары маюць права вольна выказваць свае меркаванні і нясуць адказнасць за дакладнасць пададзеных звестак.

Газета надрукавана ў друкарні "Мэджык" (Мінск, вул.В.Харужай, 13)
Падпісана ў друк 27.08.98 Замова № 1013

Кошт свабодны. У шапіках "Белсаюздруку" 7000 рублёў.

**"BIELAVIEZHSKAYA PUSHCHA" Belarusan Nature-Loving Newspaper. Motto: With Love To Lap. Published at the iniciative of the Information Green Agency "NERUSH-PRES" Contact: 220088, Miensk, Ivanauskaya st., 38-16, Phone (375 17) 236-50-76**